# Голас Радзімы

№ 34 (2124) 24 жніўня 1989 г. ⊙ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА») ⊙ Выдаецца з 1955 г. Цана 4 кап.





Сёння Поразава — сучасны пасёлак г[illegible]скога тыпу ў Свіслацкім раёне на Гродзеншчыне, з уласнай мясцовай прамысловасцю, школамі, бібліятэкамі, бальніцай. Калісьці (Поразава вядомае з XVI стагоддзя) было яно каралеўскім мястэчкам, і цэнтрам воласці, і дзяржаўным маёнткам. Два разы ў Поразаве ўсталёўвалася Савецкая ўлада: спачатку ненадоўга летам 1920-га, а потым у лістападзе 1939-га, калі Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Пра гэтыя падзеі нярэдка прыгадвае былы член КПЗБ У. Храноўскі. Як ніхто іншы, ён можа параўнаць учарашняе жыццё і сённяшняе, з усімі яго добрымі і не зусім светлымі бакамі.

НА ЗДЫМКАХ: так выглядае поразаўская цэнтральная вуліца; дывановы цэх Свіслацкага камбіната бытавога абслугоўвання ў Поразаве; Уладзімір ХРАНОЎСКІ — старажыл Поразава; наборы мэблі «Іса» выпускаюцца поразаўскім цэхам па вытворчасці лазовай мэблі. Гэта прадукцыя экспартуецца і за мяжу.

Фота С. КРЫЦКАГА.





ПЕРШЫЯ АХВЯРАВАННІ

## ПАДЗЕЛЕНЫ БОЛЬ

Першыя добраахвотныя ўзносы паступілі ў фонд ліквідацыі ў рэспубліцы вынікаў чарнобыльскай аварыі. На рахунак зроблены пералічэнні ад армавірскага кааператыва «Цеплаэнергія»—200 рублёў, сям'і Пятровых з Крывога Рога — 100, упраўлення пусканаладачных работ горада Мінска — 5 000, Аксаны Пракапенка з Чарнігава — 10, кааператыва «Лучафэр» горада Бельцы — 2 000, Н. Радзько з Гомеля — 20, інфармацыйна-вылічальнага цэнтра Міністэрства фінансаў БССР — 4 000. Адгукнуліся жыхары Свярдлоўска, Іркуцка, Вінніцы, Ленінграда, Петрапаўлаўска, Вільнюса і многіх іншых гарадоў.

Аграмеліярацыйная «касметыка», дэзактывацыя не змаглі за тры гады вылечыць радыяцыйныя язвы. Трэба будзе перасяліць яшчэ больш як сто тысяч чалавек. На гэта спатрэбіцца звыш дзесяці мільярдаў рублёў — амаль гадавы бюджэт Беларусі.

Вядома, было б правільна, каб страты пакрылі тыя, хто ў іх вінаваты. Аднак і бескарыслівая дапамога ўсіх нераўнадушных да трагедыі Беларусі будзе нялішняй, і рэспубліка з удзячнасцю яе прымае.

Улічваючы магчымасць аказання дапамогі грамадзянамі і фірмамі іншых дзяржаў, савецкімі арганізацыямі і асобамі, якія маюць валюту, адкрыты рахунак № 000700801 у Беларускім рэспубліканскім банку Знешэканомбанка СССР.

Першыя ахвяраванні на «чарнобыльскі» рахунак паступілі і ад нашых замежных суайчыннікаў. Марыя Семярэнка перадала 8 тысяч бельгійскіх франкаў ад ССГБ, Алена Грыгаровіч з Бельгіі асабіста — 5 тысяч бельгійскіх франкаў, Святлана Курдзі з Сірыі — 25 рублёў, Вольга Трылаф з ФРГ — 25 рублёў, Браніслаў Аўгусціновіч таксама з ФРГ — 100 заходнегерманскіх марак.

ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА

## ЗМЕНА ПРОФІЛЮ

Брэсцкі політэхнічны інстытут—так зараз называецца былая інжынерна-будаўнічая вышэйшая навучальная ўстанова горада. Са зменай назвы тут значна пашырыўся выбар спецыяльнасцей для народнай гаспадаркі.

Памяняць профіль прымусіла само жыццё. Бо будаўнічыя арганізацыі вобласці «насычаны» выпускнікамі-будаўнікамі. Цяпер жа на новым электронна-механічным факультэце тут будуць рыхтаваць яшчэ і інжынераў па ЭВМ, тэхнолагаў для машынабудаўнічых прадпрыемстваў. За кошт скарачэння прыёму на будаўнічыя факультэты сюды паступілі каля двухсот чалавек.

ВЫСТАЎКА

## НА ПРАМЫЯ СУВЯЗІ

У Доме польска-савецкай дружбы ў Варшаве праходзіла навукова-тэхнічная выстаўка «Мінскі трактарны завод—перадавое прадпрыемства галіны».

Тут была прадстаўлена прадукцыя мінчан, асобныя вузлы МТЗ, дзеючыя макеты. Выстаўку наведалі тысячы палякаў. Беларускія трактарабудаўнікі сустрэліся з калегамі—трактарабудаўнікамі аб'яднання «Урсус». Быў заключаны дагавор аб прамых сувязях паміж прадпрыемствамі. У ім прадугледжаны ўзаемны абмен рабочымі брыгадамі.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## ПРЫЗНАНА ВЫНАХОДСТВАМ

Калектыў Беларускага рэспубліканскага навукова-даследчага аб'яднання парашковай металургіі распрацаваў новае прыстасаванне для распылення матэрыялаў пры пакрыцці дэталей. Яно прызнана вынаходствам. Такое рашэнне прыняў Дзяржаўны камітэт СССР па справах вынаходстваў і адкрыццяў пасля правядзення экспертызы.

Істотнай асаблівасцю вынаходства з'яўляецца тое, што яно значна павышае прадукцыйнасць працы і якасць нанясення пакрыццяў. Распрацоўшчыкам В. Міргарадскаму, Я. Ціхановіч і іншым выдадзена аўтарскае пасведчанне на вынаходства.

НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

## МАГІЛЁЎСКІ МАРМУР

Не адрозніш ад прыроднага мармуру новыя аддзелачныя пліты, выпуск якіх асвоены ў вытворчым аб'яднанні «Магілёўбудматэрыялы». Сёлета намечана вырабіць каля трох тысяч квадратных метраў гэтых дэкаратыўных матэрыялаў. Асноўнай сыравінай для прыгожых пліт служыць гіпс, розныя фарбавальнікі. Іх падбор дае непаўторныя ўзоры.

Прадпрыемства павялічвае выпуск будаўнічых матэрыялаў. Яны будуць прадавацца арганізацыям і насельніцтву. Цяпер узводзіцца цэх па выпрабу абліцовачнай пліткі магутнасцю пяцьсот тысяч квадратных метраў у год. Выпуск прадукцыі тут пачнецца ў пачатку наступнага года.

ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ



Гродзенскае вытворчае аб'яднанне імя С. Прытыцкага — прадпрыемства ў рэспубліцы вядомае. Сёлета ў дапаўненне да планавых паставак адсюль ужо адпраўлена сельскім працаўнікам рэспублікі больш за 20 тысяч тон мінеральных угнаенняў і 50 тысяч тон аміяку. Гэта вынік вялікай работы калектыву, які імкнецца выпускаць прадукцыі больш, лепшай якасці і зніжаць яе сабекошт.

НА ЗДЫМКАХ: на многіх вытворчых участках аб'яднання складаная і разнастайная радыёапаратура. Сярод тых, хто адказвае за яе спраўнасць і безадмоўную работу, — электраманцёр станцыйна-тэлевізійнага абсталявання Аляксей САЛАЎЯНЮК; утульныя куткі і пакоі адпачынку створаны на аб'яднанні. Адзін з іх — у цэху сувязі.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## ПА ПРАГРАМЕ «КЛОПАТ»

У Слуцку створана гарадское аддзяленне фонду міласэрнасці і здароўя з мэтай аказання практычнай дапамогі састарэлым адзінокім людзям, інвалідам вайны і працы, проста бедным пенсіянерам. А іх нямала. Звыш 200 чалавек у раёне атрымліваюць пенсію да 30 рублёў, 5 066—ад 30 да 50 рублёў. У горадзе 370 адзінокіх састарэлых ветэранаў вайны і працы, якім патрэбна не толькі матэрыяльная дапамога, але і спагадлівае слова ўрача, проста добрых, міласэрных людзей.

***

Па ініцыятыве Беларускага фонду міласэрнасці і здароўя прайшоў дабрачынны спектакль Мінску для інвалідаў і іх сем'яў.

Гледачы цёпла віталі артыстаў Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра БССР, якія паказалі спектакль па п'есе «Зоркі на ранішнім небе» Аляксандра Галіна. Прэм'ера прайшла з аншлагам.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## УВАГА ДА САСТАРЭЛЫХ

Без ранейшай трывогі за старых бацькоў зараз могуць ехаць у адпачынак многія мінчане. Клопат аб старых людзях і інвалідах узяў на сябе Мінскі гарадскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання пенсіянераў. Тут пачало дзейнічаць аддзяленне для часовага пражывання гэтай катэгорыі грамадзян.

Каб выкарыстаць паслугі цэнтра, мінчанам дастаткова падаць заяву ў аддзел сацыяльнага забеспячэння па месцы пражывання і атрымаць дазвол участковага ўрача. У распараджэнні грамадзян, якім патрэбны догляд, адна- і двухмесныя нумары гасцінічнага тыпу з тэлевізарам, халадзільнікам, усімі зручнасцямі. Тыя, каму неабходнае лячэнне, могуць звярнуцца да тэрапеўта, стаматолага, неўрапатолага і іншых урачоў, выкарыстаць паслугі фізіятэрапеўтычных кабінетаў. Працуюць тут бібліятэка, кіназала, буфет. Часовае пражыванне з усім комплексам бытавых паслуг абыходзіцца сваякам 75—90 рублёў у месяц.

ПАДСОБНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ



Важкай крыніцай атрымання дадатковага прыбытку ў калгасе «Зара» Баранавіцкага раёна сталі падсобныя вытворчасці. Тут пабудаваны цэхі па перапрацоўцы гародніны і фруктаў, мяса і грыбоў, запушчаны лініі па прыгатаванню ляснога чаю і разліву лячэбна-сталовай вады, уведзены ў строй цэх па вытворчасці каўбас. Сёлета падсобныя вытворчасці дадуць у грамадскую касу каля паўтара мільёна чыстага прыбытку, да канца пяцігодкі — два мільёны рублёў.

НА ЗДЫМКУ: узоры прадукцыі падсобных промыслаў адбірають тэхнолаг Соф'я ЗАГУРСКАЯ (злева) і мікрабіёлаг Людміла МЯДЗВЕДЗІК.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## ЭКАЛОГІЯ І ЧАЛАВЕК

Чарговая сустрэча адбылася ў рэспубліканскім прэс-цэнтры. На пытанні журналістаў адказвалі людзі, чыя дзейнасць непасрэдна адбіваецца на экалагічным становішчы Беларусі, — кіруючыя работнікі Рэспубліканскага камітэта аховы прыроды, Аграпрома, Акадэміі навук Беларусі, шэрагу міністэрстваў.

Ахова прыроды, навакольнага асяроддзя сёння зрабілася адной з найвастрэйшых праблем, і не дзіўна, што грамадства ўзяло яе вырашэнне пад свой кантроль.

Перад прысутнымі з інфармацыяй выступіў старшыня Дзяржкампрыроды БССР Віктар Казлоў. Ён расказаў пра найбольш набалелыя экалагічныя праблемы Беларусі на сённяшні дзень, пра складанасці ў рабоце камітэта. Справа ў тым, што пакуль яшчэ падведамасная яму ўстанова, якая галоўным чынам і павінна абараняць нашу прыроду і навакольнае асяроддзе, не валодае дастатковымі для гэтага правамі. І ў выніку адміністрацыя прамысловых прадпрыемстваў, сельскія кіраўнікі часам проста не звяртаюць увагі на яе рэкамендацыі і патрабаванні. Начальнікам Белгідрамета Ю. Пакумейкам прыводзіліся прыклады сапраўднага ведамаснага дыктату. У Навапалацку, дзе экалагічная сітуацыя вельмі трывожная, створана аб'яднаная экалагічная лабараторыя, якая павінна кантраляваць наяўнасць і колькасць шкодных рэчываў у атмасферы, вадзе. Але яе фінансаванне даручана непасрэдным віноўнікам гэтых усіх забруджванняў. І ў выніку завод шкловалакна папросту адмовіўся даваць грошы. У сувязі з гэтым В. Казлоў выказаў спадзяванне, што сітуацыя зменіцца, калі рэспубліка пяройдзе на самафінансаванне і гасразлік і прадпрыемствы будуць плаціць уласныя грошы і за зямлю, і за ваду, якія яны выкарыстоўваюць.

На прэс-канферэнцыі было ўзнята пытанне эфектыўнасці грамадскага ўздзеяння на тых, ад каго залежыць здароўе нашай прыроды. Дарэчы, літаральна за некалькі дзён да гэтага ў Полацку прайшоў буйны экалагічны мітынг. Сёння ствараюцца грамадскія экалагічныя арганізацыі, якія ў альтэрнатыўным парадку распрацоўваюць і ажыццяўляюць меры па ахове навакольнага асяроддзя. Так, дзякуючы ўмяшанню грамадскасці, было спынена будаўніцтва Беларускай АЭС, Даўгаўпілскай ГЭС, устаноўкі «Парэкс-2» у Навапалацку.

Значная ўвага на сустрэчы ў прэс-цэнтры была ўдзелена пралікам і абыякавасці да прыроды пры меліярацыі зямель, у выкарыстанні лясоў.

Нярэдкія выпадкі сапраўднага калектыўнага эгаізму цэлых вёсак і калгасаў пры вырашэнні пытанняў аб асушэнні ўгоддзяў, калі людзі гоняцца за імгненнай карысцю.

Асцярожанне прысутных — і спецыялістаў, і журналістаў — выклікала выступленне намесніка міністра лясной гаспадаркі БССР В. Зорына, які ў цэлым станоўча ацаніў стан спраў у сваёй галіне. У той жа час В. Казлоў прывёў факт, што ў рэспубліцы засталося толькі 2,4 працэнта спелых лясоў. Акадэмік І. Ліштван з абурэннем адзначыў, што працягваецца бязлітасная высечка беларускага лесу, планы лесанарыхтовак растуць і растуць, і гэта ў сітуацыі, калі значная частка лясных угоддзяў выпадае з абароту, бо прыблізна мільён гектараў лесу забруджаны радыенуклідамі.

Так, сапраўды, болевых кропак у нашай экалогіі сёння хапае. Многа, вельмі многа ў іх лячэнні залежыць ад адказнасці работнікаў міністэрстваў і ведамстваў. Але, як слушна заўважыла старшыня Мінскага абласнога камітэта па ахове прыроды М. Худая, поўнасцю ліквідаваць іх магчыма, толькі аб'яднаўшы намаганні ўсіх жыхароў Беларусі.

## *ЯК ПРЫЖЫВАЕЦЦА АРЭНДА Ў ВЁСЦЫ*

# З ЧУЖОГА ПОЛЯ НА СВАЁ

### КАЛГАСНАЕ — НІЧЫЙНАЕ!

Мінулай зімой даяр з Браслаўшчыны, з калгаса імя Кірава, Аляксандр Казлоўскі паехаў у вясковую краму, купіў за свае грошы 1 тону 700 кілаграмаў камбікорму, пагрузіў мяхі на воз і адвёз іх на калгасную ферму. Скарміў хлопец каровам фураж і забыўся пра той выпадак. А людзі ўсё дзівяцца. Як гэта так? Са сваёй хаты, сваёй кішэні ды цягнуць у калгас? Склалася так, што ўсё робіцца наадварот: з калгаса — у сваю кішэнь, у сваю хату. Той жа камбікорм, калі ўдасца, цэнтнерамі, бывае, валакуць. Уласны легкавік дзяржаўным бензінам запраўляюць, будаўнічыя матэрыялы за бутэльку заганяюць «налева». Ды ці мала чаго такога робіцца і ў правінцыі, і на асфальце нашых гарадоў. Нават псіхалогія такая акрэслілася: «Гэта не маё, гэта калгаснае і, значыць, нічыйнае. А калі чужое, то не грэх і ўкрасці ці рабіць так, абы з рук».

Але незадаволенасць такім станам суцэльнай безгаспадарчасці падточвала і «вярхі», і «нізы». Нарэшце, механізатары, даяркі, паляводы, цэлыя калгасы пачалі пераходзіць на арэндны падрад: людзі бяруць пад свой догляд учарашнія «нічыйныя» землі, жывёлу, тэхніку, іншыя рэсурсы. Аляксандр Казлоўскі аказаўся піянерам у гэтай справе. Да арэнды ён быў гатовы ўжо даўно, як кажуць, выспеў. Усяляк спрабаваў акрыяць на працы. Апошняя яго навацыя — агульны кацёл. Што заробяць жывёлаводы — падзеляць на ўсіх, без вылучэння лепшых і горшых.

Месяцы праз чатыры зразумеў: нічога так не атрымаецца. У адной з даярак як былі закарэлыя цяляты, такія і засталіся, як хварэлі каровы, так і хварэюць. А грошы, зробленыя Казлоўскім і іншымі працавітымі работнікамі, падзялілі на ўсіх. Заробак лепшага аддалі горшаму. Так даяр Казлоўскі «скаціўся» да «індывідуалізму»: папрасіў зямлі для 15 кароў, трактар. Хоць сена, гаварыў заатэхніку, уволю назапашу.

На яго паглядзелі, як на блазна. Ты што, смяешся? Нельга ў прыватныя рукі калгасную жывёлу і тэхніку аддаваць! Выпакутаваная на ўласным горкім вопыце мара Казлоўскага пра свабодную працу заставалася нерэалізаванай да 1988 года.

Летась усё ж новыя ідэі прабіліся і ў браслаўскі калгас, у вёску, далёкую ад сталіцы, без дарог і людзей, дзе ўжо шэсць гадоў, не маючы ні выхадных, ні прахадных, доіць калгасных кароў Саша Казлоўскі.

За свой першы арандатарскі сезон ён паказаў, на што здатны чалавек з раскаванай ініцыятывай. Прыбаўка надояў на карову склала 600 кілаграмаў, а ў цэлым у разліку на галаву атрымана 4 856 кілаграмаў малака. Дарэчы, гэта лепшы паказчык у раёне. Але Аляксандр Казлоўскі «рвануў» і ў заработку: атрымаў у канцы года сем тысяч рублёў даплаты. Гэта апрача ніштаватага месячнага авансу. І хаця ён гэтак жа шчыра завіхаўся і ўсе ранейшыя шэсць гадоў на ферме, ніхто таму асаблівага значэння не надаваў, бо Казлоўскі быў, як усе, рабіў на агульны кацёл. Але варта было хлопцу вырвацца, атрымаць свае сем тысяч, многіх быццам кіпенем абварылі: «Куркуль! Хапуга!»—і ў вочы, і за вочы. Але найбольш вытылінгвала тая кабета, у якой цяляты па самыя вушы гноем зараслі. Пашкадуе іх «багаты» сусед-арандатар—падсцеле саломкай ці пакорміць, то й ажываюць. А так качаюцца, гібеюць у твані. Вока ж кабеты квапіцца на рубель Казлоўскага. «Самі перайшлі б на арэнду, не менш мелі б», — прапанаваў у размове ёй.

— Хіба я дурная ішачыць ад цямна да цямна, — кажа.

Вось так. Рабіць як набяжыць, а рубель давай большы, дзялі яго пароўну. Інакш старшыня — нягоднік, а Казлоўскі — куркуль. Ды ці адна такая маладзічка па сучасных вёсках загадзя нацэлена на «раскулачванне» цягавітага арандатара?

### НАЗАД ДАРОГІ НЯМА

Паездзіўшы па вёсках, не раз бачыў: развучыліся ў нас і лічыць, і эканоміць. Звыклай стала карціна: вялізны трактар бурчыць на панадворку, а два калгаснікі віламі гной у цялежку кідаюць. Гадзіну кідаюць, тры, чатыры — гэта ж не падвода, а механічны волат у пяцьсот конскіх сіл, паспрабуй — напакуй яго прычэп. І паўдня матор ніхто не глушыць, не лічыць, колькі паліва вылятае праз яго шырокую трубу на вецер.

— Мільён — туды, мільён — сюды, — махае рукой Саша Казлоўскі і яшчэ больш старанна шуруе віламі: арандатарам няма калі тары-бары разводзіць, яны вымушаны лічыць і час, і грошы. У такія ўмовы пастаўлены. За тэхніку плаці сваімі кроўнымі, за кармы — таксама. Крок ступіш — вымай рубель. Хочаш не хочаш — зробішся ашчадным. Інакш, апрача мінімальнага пра[illegible]ачнага авансу, нічога не а[illegible]аеш. Вось чаму і хлопцы з арэнднай брыгады механізатараў добра падчысцілі «могілкі» тэхнікі каля цэнтральных майстэрань свайго калгаса «Наперад».

Старшыня браслаўскага калгаса імя Калініна Анат[illegible] Манкевіч раздаў сёлетняй [illegible]ной у арэнду і землі, і фермы гаспадаркі. З калгасных механізатараў у два арэндныя атрады ўвайшла тады палавіна. Іншых скарацілі свае ж таварышы. Без вашых паслуг, кажуць, справімся. А раней з Віцебска, за 300 кіламетраў, везлі сюды, на глністыя ўзлобкі, гарадскіх шафёраў, трактарыстаў. Гэта скасаванне ашаламляльна падзейнічала на ўсіх калгаснікаў: за тыдзень-другі так падняло дысцыпліну, якой Манкевіч так і не змог дабіцца за ўсе сем гадоў свайго старшынёўства самымі крутымі адміністрацыйнымі мерамі.

Тыя лішнія прыйшлі да яго і просяць работу. Сем'і, кажуць, трэба карміць. Раней гэтых малайцоў сам Манкевіч з ранку хадзіў-будзіў, на працу гнаў, а цяпер усё памянялася. «Адстаўнікоў» у хуткім часе разбілі на кааператывы. Адны робяць зараз дарогі, будуюць сёе-тое, іншыя падаліся ў рыбакі. А старшыня Манкевіч у прыпар пасяўной не «лятаў», як некалі, па калгасе, а сядзеў пры расчыненым акне, слухаў спеў жаваранкаў і думаў, які б яшчэ кааператыў арганізаваць. Кажухі, мо, пачаць шыць ці лён трапаць?

Знайшоўся ў яго час падзяліцца ўражаннямі адносна змен у псіхалогіі людзей:

— Вунь той чалавек, — неўпрыкмет паказаў ён на аднаго з механізатараў на полі, — век з паламаным культыватарам ездзіў. Вылупіць «зубы» аб каменне, але выйсці з кабіны лянуецца, пакуль аграном не наткнецца. А цяпер бачыце, што робіць?

— Камень, — адказваю субяседніку, — з поля нясе.

— Во-во, камень. А летась толькі мы з аграномам іх самі цягалі, трактарысты ж не «прымячалі».

Знізу, ад усіх браслаўскіх арандатараў, коціцца новая хваля. Хваля разліку, падліку эканамічных рахункаў. І ў кожнага, літаральна ў кожнага з арандатараў узнікаюць канфлікты з мясцовым кіраўніцтвам. Калі іх вырашаюць з дапамогай адміністрацыйнага бізуна — усё распадаецца. Прыклады можна прыводзіць і з Браслаўскага, і з іншых раёнаў. Не ў прыкладах сутнасць. Старшыня калгаса «Наперад» Віктар Раловіч здолеў «закілзаць» свае адміністрацыйныя амбіцыі і дамовіўся з Іванам Ерамеевым, брыгадзірам арэнднай брыгады механізатараў, аб большай цане на дадатковы хлеб. І ўсё ж грызе, ох, і грызе чарвяк адміністрацыйнага сумнення душу старшыні. Нарэшце, ён не вытрымлівае і прагаворваецца:

— Я гэта пытанне ўсё ж закрыў бы.

Але сёння яго ўжо не закрыеш. Без Ерамеева, Казлоўскага і іншых зарасла зямля, замуціліся азёры. Назад дарогі няма.

### ПОЎНАЯ САМАСТОЙНАСЦЬ: ЦІ МАГЧЫМАЯ ЯНА!

«Чыстых» арандатараў, што ўзялі ў сваю «ўласнасць» зямлю, тэхніку, жывёлу і такім чынам перарвалі пупавіну, якая звязвала з калгасам, саўгасам, на Браслаўшчыне нямнога. Можа, два, можа, тры чалавекі.

Прынятыя ў апошні час рашэнні на дзяржаўным узроўні далі ясныя адказы на многія пытанні, што хвалююць сялян. Сёння яны атрымалі права выбару: заставацца арандатарамі ў калгасе, саўгасе ці стаць самастойнымі гаспадарамі.

Але на практыцы складваецца так, што скасаваць саюз з гаспадаркай здольныя героі-адзінкі. Інакш апынешся ў вакууме. Ні культыватара, ні капеечнай дэталі не знойдзеш.

Усё залімітавана, зафандзіравана і знаходзіцца пад каўпаком таго ж калгаса, «Сельгастэхнікі», ці, як пішуць на яе сённяшняй шыльдзе, — «Аграпрамзабеспячэння».

— Аддзяліцца, канешне, проста, — разважае І. Ерамееў. — Старшыня заўпарціцца, то ў раён паедзем. Але нам самім няма рэзону скасоўваць «шлюб». Калгас і тэхніку абнаўляе, і сарты лепшыя дае, і ўгнаенні падкідвае... Так спадручней, зацішней...

Яму «падпявае» і арандатар калгаса імя Кірава А. Казлоўскі.

— Стаць самастойным сёння пакуль нерэальна. Глядзіце, якая тэхніка дарагая. Трактар «Беларусь» для калгаса каштуе 5 тысяч рублёў, для арандатара — дзесяць. А касілка нямецкая? Без яе, калі будзеш самастойным, прагарыш. Цана ж самаходкі зусім астранамічная — 40 тысяч. Пакуль назбіраю грошай і куплю, што трэба, рабіць некалі — паміраць час.

Паводле нашых з Казлоўскім падлікаў, атрымалася, што на абсталяванне самастойнай арэнднай фермы-гаспадаркі з зямлёй і лугам у 50—60 гектараў патрэбна як мінімум 150 тысяч рублёў.

— Але такіх крэдытаў мне ніхто не дасць, — пацісную плячыма Аляксандр. — Не ўяўляю, і як разлічыцца з імі.

І ўсё ж у галаве хлопца снуюць думкі, мрояцца спадзяванні на заўтрашні дзень. Чацвёра дзетак якраз падрастаюць. Далучыць бы іх да зямлі, збіць сваю сямейную ферму. І дзеткі не адарваліся б ад бацькаўшчыны, і ў старасці апора.

Незалежна адзін ад другога, шляхам доўгіх роздумаў Ерамееў з Казлоўскім даходзяць да высновы: дайце нам магчымасць хоць частку звышпланавага хлеба , малака прадаць на рынку, купіць рэч узамен, адчуць, што і ты нешта можаш.

Але і прагрэсіўны старшыня Раловіч мяркуе, як бы такія думкі-ідэі свайго арандатара ўжо ў зародку прыціснуць.

Прыглушыць, канешне, можна. «Забараняць і не пушчаць» навучыліся няблага. Ды што з таго? Ерамееў хоча прадаць на рынку з дзесятак пудоў хлеба. З якой мэтай? Каб атрымаць узамен фуфайку, боты, тэлевізар ці нейкую жалезную загагуліну на свой трактар. Іван Іванавіч не супраць прыдбаць усё гэта ў вясковай краме ці на якім аптовым складзе. Але ж у магазіне толькі леташнія кансервы, а аптовага гандлю ў рэспубліцы, як вядома, не існуе. Ужо сёння зразумела: сапраўднага хлебароба, які хоча і можа ісці наперад, пакуль трымаюць на кароткім павадку старых эканамічных правіл, інструкцый і догм мыслення. Што ж тычыцца зямель беларускага Паазер'я, ды і ў цэлым усходніх абласцей рэсп[illegible]ікі, то клапатлівыя рукі сел[illegible]ім вельмі патрэбны. Пазарасталі многія палеткі, удзірванелі сенажаці, кустоўе лезе на раллю. Стаялі з Казлоўскім на гары каля яго вёсачкі — ого, які абшар, якая сіне-зялёная далеч. Але што гэта за чорныя [illegible]злы ля самага небасхілу?

— Сляды колішніх вёсак, — уздыхае Саша. — Пакінулі іх людзі, хаця і мясціны па прыгажосці не горшыя, чым саюзныя курорты.

Запусціў калгас гэтыя землі, няма надзеі, што давядзе да ладу і ў будучыні. Дык ці не лепш іх аддаваць такім руплівым у працы, як Казлоўскі? Але ж тады ўчарашнія паслухмяныя механізатары, жывёлаводы без голасу набудуць рэальныя гаспадарчыя правы, захочуць рухацца па-свойму. Без дыктату, націску і абмежаванняў. Гэтага будзе патрабаваць і новая форма ўласнасці. «Асабістая» ці «прыватная». Вучоныя-эканамісты называюць яе па-рознаму. Як каму падабаецца. Справа не ў назве — у сутнасці. А сутнасць бянтэжыць многіх.

Віталь Кавалёнак з калгаса «Шлях Леніна» хоць і жыве ў вёсцы, але пайшоў па-хутарскому метаду. Узяў у арэнду пяць быкоў, сем гектараў зямлі, заключыў з калгасам пэўнае пагадненне. Знайшлі яго на адным з паўвастравоў міжазер'я, дзе чалавек вычэсваў культыватарам застарэлы пырнік. Ён яшчэ падаўнейшаму гнецца перад начальствам, падтаквае, але ўжо плануе:

— Пасаджу бульбы тры гектары...

— А капаць хто дапаможа?..

— Два зяці, дзве дачкі ў горадзе.

— Ці справяцца?

— Не. Але найму студэнтаў, яшчэ каго. Заплачу наяўнымі, то як бач падбяруць.

Муж і жонка Зінаіда і Фёдар Мажэйкі — вядомыя на Браслаўшчыне агароднікі. Летась узялі адзін гектар зямлі, сёлета — тры. Самі гавораць, што ледзь спраўляюцца. І праўда, работы многа: агуркі, капуста, расада памідораў, хрызантэм. Цяпліцы. А механізацыі ніякай. Таксама прыходзяць да думкі аб найме людзей. З дзецьмі, Сярожам і Дзімам, вучнямі малодшых класаў, расплачваюцца грашыма.

— Чым не зародак эксплуатацыі, — нашэптвалі мне некаторыя з апанентаў.—Ужо цяпер, не лічачы авансу, арандатары зарабляюць па 5—7 тысяч у год. А дай волю, і папрэ прыватнік, папрэ, як на дражджах.

— Дык што, — пытаўся я, — лепш прыціснуць, «перакрыць кісларод»?

Ахвотнікаў «перакрыць кісларод» не знайшлося. Бо і самыя заядлыя кансерватары гаварылі аб адчужанасці, абыякавасці селяніна да работы, ператварэнні яго ў падзёншчыка. Самі прыходзілі да думкі аб неабходнасці змен. І самі ж баяліся новага.

### ЧАГО БАЯЦЦА?

Што ж абараняюць як быццам «замшэлыя» старшыні? Калектыўную гаспадарку з яе істотнымі перавагамі: механізацыяй працы, нармiраваным рабочым днём, выхаднымі, адпачынкамі... Чаго інстынктыўна асцерагаюцца? Прыватнай уласнасці, дакладней, яе перарастання ў прадмет нажывы і эксплуатацыі. Праблема ў гэтых сумненнях, на мой погляд, акрэсліваецца. Але і вырашаць яе метадамі ўціску і прыгнёту, па меншай меры, абсурдна. Якія тут ёсць магчымасці? Палітыка цэн, падаткаў, капітальных укладанняў і г. д.

— Многія чакаюць, — уздыхаў Аляксандр Казлоўскі, — прышлёпнуць мяне, як муху, ці не, дадуць волю ці не. Пайду я далей, і яны пойдуць. А не — то выпусцяць «калючкі», нібы вожыкі, і зашыюцца па сваіх хатках.

— Ты асуджаеш людзей?

— Не, канстатую факт. Многія памятаюць, як яшчэ пасля вайны працавітых сялян сем'ямі высылалі на Салаўкі.

І сёння пакуль на сялян-арандатараў косяцца, у іх бачаць нейкае чужароднае цела, часовы адыход ад сацыялізму: догмы сталінскіх і застойных часоў моцна заселі ў свядомасці. І калі хтосьці са сваіх жа аднавяскоўцаў выдзяляецца, калі ён многа зарабіў, значыць, не «наш» чалавек. І таму не агрэсіўныя прыхільнікі замшэлай ураўнілаўкі адчуваюць сябе ізгоямі, а старанны працаўнік. Чаму гэта, бачыце, ён жыве не так, як усе, чаго ён гібее ад цямна да цямна! Столькі гадоў хапала на кавалак хлеба, а цяпер не хапае? Падазрона.

Вынаходлівасць, смеласць, рызыкоўнасць — гэтыя якасці вытручваліся і ў эпоху застою. І тое, што на Браслаўшчыне ўцалелі, захаваліся людзі накшталт Ерамеева і Казлоўскага, вельмі добра. У іншых мясцінах няма каму замест двух каласоў збіраць пяць, замест літра малака даіць тры. Лес ураўнілаўкі вынішчыў падлесак смелай думкі і прадпрымальніцтва. Верыцца, час зжываць у свядомасці людзей догму, што заможны чалавек і сацыялізм нешта супрацьлеглае, неадэкватнае. Час ураўняць у правах, як аб гэтым шырока гаварылася на З'ездзе народных дэпутатаў СССР і ў дакладзе М. С. Гарбачова, усе віды ўласнасці, у тым ліку арэндную, кааператыўную, акцыянерную, індывідуальную. Дзеля аздараўлення эканомікі спецыялісты прапануюць развіваць канкурэнцыю паміж прадпрыемствамі, свабоднымі прадпрымальнікамі, а таксама практыкаваць перадачу ўласнасці на сродкі вытворчасці ў рукі працоўных калектываў. Як ні мяркуй, а ўсё зводзіцца да аднаго: прызнаць арандатара Казлоўскага паўнапраўным і адказным гаспадаром. Цяпер савецкае грамадства проста вымушана выкарасквацца з завалаў устарэлых догм, вярнуць на зямлю гаспадара. Кожнаму разумнаму і сумленнаму чалавеку сёння зразумела: без работнікаў тыпу Казлоўскага і Ерамеева ў краіне не стане жыць лепш.

**Аляксандр ШАГУН.**



**Бывай, піянерскі лагер! Бывай, «Зялёны Бор»! Са смуткам і шкадаваннем расставаліся нашы госці з ветлівымі гаспадарамі, з новымі сябрамі — беларускімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі.**
**Штогод Беларускае таварыства «Радзіма» сустракае і праводзіць дзяцей і ўнукаў суайчыннікаў з розных краін свету, робіць усё магчымае, каб адпачынак быў прыемным і карысным. У чым мы бачым гэту карысць! Вельмі хочацца, каб знаходжанне на Савецкай зямлі не прайшло для дзяцей бясследна, каб на ўсё жыццё захавалі яны добрыя пачуцці да Радзімы продкаў, самі мелі непрадузятае ўяўленне аб тых зменах, што адбываюцца ў нас цяпер.**
**Клава і Сяржа Капенол прыязджаюць у Беларусь трэці год запар. У таварыстве «Радзіма», куды дзеці былі запрошаны ў госці і дзе ім быў наладжаны цёплы прыём, усе мы сталі сведкамі размовы па тэлефоне Клавы з мамай, якая знаходзілася ў сваякоў у Маскве.**
**— Мамачка, мы такія шчаслівыя, што зноў апынуліся ў гэтым піянерскім лагеры, — гаварыла Клава, не звяртаючы ніякай увагі на тое, што ў пакоі многа людзей.**
**— ...!**
**— Не хвалюйся за нас, усё ў нас у парадку. Кормяць, здаецца, нават лепш, чым у мінулым годзе. Мамачка, мне сёння даверылі праводзіць ранішнюю лінейку. А ўчора была дыскатэка. Ёсць і невялікая непрыемнасць: учора прайгралі ў піянербол. Гэта такая гульня з мячом. Нам падабаецца! Ну, усё, мамачка, бывай! Тут чакаюць такія смачныя пачастункі!**
**Як заўсёды пры развітанні, дзеці атрымалі па памяць фатаграфіі, паглядзеўшы якія, яны ўспомняць і экскурсіі ў Мінск, і наведанне Хатыні, і дні ў піянерскім лагеры.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# ПРА ШТО РАСКАЖА НЕЛІДА

Так атрымалася, што сустрэцца з гэтымі гасцямі Беларускага таварыства «Радзіма» ў першыя два дні іх знаходжання ў Мінску мне не давялося. Вельмі ўжо насычанай была праграма знаёмства са сталіцай Беларусі для суайчынніц. А затым клопат аб іх узяло на сябе Брэсцкае аддзяленне таварыства «Радзіма». Дарэчы сказаць, хоць яно і адкрылася толькі ў мінулым годзе, ужо вельмі многія суайчыннікі — ураджэнцы Брэстчыны або тыя, хто мае там сваякоў, карысталіся яго паслугамі і вельмі задаволены, што такое аддзяленне нарэшце створана. У Брэсце дарогі гасцей разышліся. Яны раз'ехаліся па вёсках, каб сустрэцца з роднымі, а Неліда Ермалюк вярнулася на некалькі гадзін у Мінск, каб адсюль накіравацца ў Маскву і далей дадому ў Аргенціну.

Да знаёмства з Нелідай я ведаў пра яе толькі тое, што нарадзілася яна ў Аргенціне і прыехала ў Беларусь упершыню. Таму прыемна здзівіла, што гэтая маладая жанчына вельмі чыста гаварыла па-руску, а часам ужывала і беларускія словы і выразы. Выявілася, што бацькі Неліды родам з Украіны і ўкраінскую мову яна ведае з дзяцінства, пазней пачала вывучаць рускую. Удасканаленне яе і было асноўнай мэтай паездкі ў Савецкі Саюз. Неліда Ермалюк дзевяць месяцаў вучылася на курсах рускай мовы ў Маскоўскім універсітэце імя Марыса Тарэза і прыехала да нас пасля заканчэння вучобы. Я пацікавіўся, чым яе прывабіла Беларусь.

— Разумееце, дома, у Аргенціне, усе славянскія суайчыннікі, выхадцы з вашай краіны, трымаюцца разам і не робяць адрозненняў паміж рускімі, украінцамі і беларусамі,— пачала тлумачыць Неліда.— І для мяне Беларусь таксама дарагая, як Украіна і Расія. Я бывала на Украіне ў час вучобы ў Маскве. Цяпер захацелася паглядзець і вашу рэспубліку. У нашых арганізацыях суайчыннікаў, сярод сяброў бацькоў многа беларусаў. Ім будзе вельмі цікава даведацца, што я тут была, паслухаць расказ пра ўбачанае.

Ну, а ўражанняў вельмі шмат,— працягвала Неліда.— Ад нашых суайчыннікаў у Аргенціне я часта чула пра Мінск, і заўсёды толькі станоўчыя водгукі. Цяпер я і сама пераканалася, што ваш горад сапраўды гэтага заслугоўвае. Уражвае шырыня вуліц, прыгожая архітэктура, мноства зеляніны і чысціня. Некалькі здзіўляе спакойны і мерны рытм жыцця горада, не верыцца, што тут налічваецца больш як паўтара мільёна чалавек. Вядома, я раскажу і пра сустрэчы з прадстаўнікамі Беларускага таварыства «Радзіма», з якімі ў нашых аргенцінскіх клубаў суайчыннікаў у апошні час наладжваюцца ўсё больш цесныя сувязі. Ваша таварыства аказвае ім значную дапамогу, з вялікім клопатам і ўвагай ставіцца яно і да тых землякоў, якія прыязджаюць у Беларусь. Я, напрыклад, бясконца ўдзячная за тое, што мне была прадастаўлена магчымасць пабываць у Брэсце. Ніколі не думала, што гэта таксама вялікі і прыгожы горад, буйны прамысловы цэнтр. Мы пабывалі ў Брэсцкай крэпасці. Кожны, хто яе наведвае, не можа не здзіўляцца мужнасці, стойкасці і гераізму савецкага народа, які змагаўся за сваю Радзіму ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Нас вазілі і ў адзін з калгасаў на Брэстчыне, што дазволіла мне спазнаць і яшчэ адзін бок жыцця савецкіх людзей. Я, вядома, разумею, што калгас гэты адзін з лепшых. Але ведаю і пра тое, якая велізарная работа вядзецца зараз у краіне, каб усе сяляне маглі мець такія ўмовы, якія мы бачылі там. Калгаснікі жывуць у прасторных катэджах сучаснай архітэктуры, маюць усе выгоды. У самім пасёлку ёсць усё, што неабходна чалавеку для нармальнага жыцця, якое не толькі нічым не адрозніваецца па зручнасцях ад гарадскога, але і мае значныя перавагі, бо побач прырода. Адным словам, я б сама з задавальненнем засталася жыць у такім калгасе.

Не магу не сказаць яшчэ аб адной рэчы, якая літаральна ўразіла мяне ў Брэсце,— сказала Неліда Ермалюк.— Гэта мноства чужаземцаў. На брэсцкім вакзале іх літаральна тысячы. Магчыма, гэта і не было б так дзіўна, бо там граніца, так сказаць, вароты ў краіну. Але справа ў тым, што і ў самім горадзе ўсюды чуеш іншаземную гаворку, бачыш мноства замежных машын. Для мяне гэта адзін з паказчыкаў вашай перабудовы, таго, што савецкае грамадства сапраўды становіцца больш адкрытым, што за мяжой вельмі моцна і хутка расце цікавасць да вашай краіны, да тых працэсаў, якія тут зараз адбываюцца.

Калі ўжо сама Неліда загаварыла аб перабудове, я папрасіў яе спыніцца на гэтай тэме больш падрабязна. Цікава было даведацца аб поглядах чалавека з боку на тое, што адбываецца ў нашай краіне, яго ацэнку падзей.

— Перш за ўсё хачу сказаць, што мне надзвычай пашанцавала, і, магчыма, пазней я буду ўспамінаць пра гэта як пра найбольш значную падзею свайго жыцця, што я трапіла ў вашу краіну менавіта ў такі час,— адказала яна.— Вядома, усе мае сваякі, іх сябры — суайчыннікі ў Аргенціне заўсёды былі адданыя сваёй Радзіме, захавалі любоў да яе і імкнуліся перадаць яе нам — сваім дзецям. Мы таксама з любоўю і павагай ставімся да вашай краіны як да радзімы сваіх бацькоў. Аднак нам было не вельмі прыемна даведацца, што ў краіне гэтай далёка не ўсё было добра. Вашы памылкі і недахопы менавіта з-за таго, што тут яны замоўчваліся, за рубяжом не без поспеху выкарысталі для таго, каб сеяць недавер да вашай краіны, страх перад «савецкай ваеннай пагрозай», «камуністычнай небяспекай». Палітыка перабудовы, дэмакратызацыі і публічнасці ўсё змяніла. Прэстыж Савецкай дзяржавы, асабліва яе знешняй палітыкі, цяпер ва ўсім свеце ацэньваецца вельмі высока. Зразумела, што суайчыннікі і іх дзеці, якія звязаны крэўнымі вузамі з вашай краінай, сочаць за ўсімі пераменамі тут з асаблівай цікавасцю. Я не выключэнне і вельмі задаволена, што змагла стаць непасрэднай сведкай многіх з іх. Ваша краіна мяняецца літаральна на вачах. Бо спачатку, як вы самі ведаеце, перабудова вялася ў асноўным зверху. Відавочна, людзі прывыклі, што ад іх мала што залежыць. Але як усё змянілася, калі яны адчулі, што могуць сапраўды ўплываць на лёс краіны. Я бачыла, як актыўна праходзіла перадвыбарная кампанія ў Маскве, галасаванне, сачыла за работай З'езда народных дэпутатаў, які ва ўсім свеце змяніў уяўленні аб вашай краіне. Словам, можна сказаць, што палітыка публічнасці і дэмакратызацыі дайшла да кожнага савецкага чалавека, палітычная актыўнасць людзей стала рэальнай сілай, якая ўплывае на ўрад, на ўсе дзяржаўна важныя рашэнні. Зварот да часоў застою або культу асобы ўжо немагчымы. На жаль, зусім па-іншаму ідуць справы ў галіне эканомікі. Тут яшчэ мноства вельмі сур'ёзных праблем. Але, паколькі цяпер пра іх гаворыцца адкрыта і рашае іх увесь народ, то, я думаю, у хуткім часе вы з імі разберацеся. Я ўбачыла Савецкі Саюз зусім не такім, якім ведала яго па расказах родных, тых людзей, хто пабываў тут раней. І вельмі гэтаму рада.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ЗАКЛІК

## ЗАСТАЕЦЦА БЕЗ АДКАЗУ

Заўсёды з задавальненнем чытаю вашу газету: яна дае многа інфармацыі аб падзеях у Савецкім Саюзе. Але, я думаю, што вас і ўсіх чытачоў «Голасу Радзімы» могуць зацікавіць і падзеі, якія адбываюцца ў нас у Аўстраліі. Тым больш, што на іх робіць уплыў знешняя палітыка СССР.

Рознабаковыя ініцыятывы па раззбраенню, значнае скарачэнне колькасці ваеннаслужачых Савецкай Арміі ва ўсходнееўрапейскіх сацыялістычных краінах, змяншэнне ваеннага бюджэту, калі вызваленыя сродкі пойдуць на паляпшэнне жыцця народа, аб'яўленыя Міхаілам Сяргеевічам Гарбачовым на пасяджэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, вядома ж, садзейнічаюць змяншэнню рызыкі ўзнікнення новай сусветнай вайны. Таму яны былі сустрэты з такім адабрэннем народамі ўсяго свету. Міхаіл Гарбачоў сказаў: «Мы давядзём перабудову да канца, але мы чакаем перабудовы і ад вас таксама».

На жаль, у большасці заходніх краін гэты заклік пакуль застаецца без адказу. Урад Вялікабрытаніі працягвае сцвярджаць, што ядзерная зброя з'яўляецца стрымліваючым фактарам, здольным прадухіліць ваенны канфлікт. Мілітарысцкія колы ЗША прыкладваюць усе сілы для таго, каб пачаць ажыццяўленне праграмы мадэрнізацыі ядзерных сродкаў. Кіраўніцтва гэтай краіны выдатна разумее, што выкананне такой праграмы звядзе на нішто дасягнутыя раней дамоўленасці паміж СССР і ЗША па ўзаемным скарачэнні ядзернай зброі. А на гэтыя пагадненні ўскладаліся такія вялікія надзеі, іх разглядалі, як першы крок на шляху да эры ўсеагульнага раззбраення. Горш за ўсё тое, што Злучаныя Штаты аказваюць вялікі націск на сваіх партнёраў па НАТА і іншых ваенных блоках, у тым ліку і на Аўстралію, каб прымусіць і іх удзельнічаць у гэтай авантуры. Урады спрабуюць пераканаць народы, што ўмацаванне ваеннай магутнасці проста неабходна. Але цяпер, калі людзі даведаліся аб перабудове ў Савецкім Саюзе, аб яго імкненні да міру на планеце, аб тым, што ён зусім не збіраецца ні на кога нападаць, зрабіць гэта не ўдаецца.

Савецкая знешнепалітычная дактрына простая і зразумелая ўсім: Савецкі Саюз прапаноўвае першым ні на кога не нападаць, не прымяняць ядзернай зброі, не разглядаць ніводную з краін як свайго ворага і патэнцыяльнага праціўніка і ні да кога не мець тэрытарыяльных прэтэнзій, ні ў якім разе не ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў. На словах такую палітыку падтрымліваюць і іншыя ўрады, але вось для рэальнага ператварэння яе ў жыццё робіцца вельмі мала.

Прагрэсіўныя людзі ў Аўстраліі ўсведамляюць, што пакуль яшчэ ў свеце захоўваецца напружанасць, існуюць ачагі, няхай лакальных, ваенных канфліктаў, вядуцца работы па распрацоўцы і ўкараненню новых відаў узбраенняў. Асабіста нас вельмі непакояць ваенныя базы ЗША, якія знаходзяцца на аўстралійскай тэрыторыі. Створаны яны былі ў перыяд, калі лічылася, што вайна з СССР непазбежная. Цяпер становішча змянілася, аднак амерыканцы настойваюць на працягу пагаднення аб базах яшчэ на дзесяць гадоў. Яны не задумваюцца пра тое, што фактычна ператварылі аўстралійцаў у «ядзерных заложнікаў». Мы не хочам мірыцца з такім становішчам, і па ўсёй краіне амаль штодзённа праходзяць дэманстрацыі прыхільнікаў міру. У іх удзельнічаюць прадстаўнікі самых розных слаёў насельніцтва, якія патрабуюць стварыць свабодную ад ядзернай зброі зону Ціхага акіяна, выступаюць супраць заключэння новага пагаднення аб ваенных базах ЗША, пратэстуюць супраць павелічэння ўрадам ваеннага бюджэту. Мы ўсе вельмі спадзяёмся, што наша барацьба будзе паспяховай.

Хачу напісаць яшчэ і аб тым, што ў аўстралійцаў вялікую цікавасць выклікае ваша перабудова. Мае знаёмыя, якія ведаюць, што я атрымліваю газеты з Савецкага Саюза, часта просяць мяне расказаць больш падрабязна аб тым, што ў вас адбываецца. Некаторыя людзі, схільныя да песімізму, пабойваюцца, што перабудова будзе ў многім капіраваць эканамічную сістэму ЗША і гэта можа пашкодзіць прагрэсіўнаму развіццю сацыялізму ў вашай краіне. З імі трэба спрачацца і пераконваць, а для гэтага патрэбны факты. Таму я чакаю вашы газеты і заўсёды чытаю матэрыялы ад пачатку да канца.

**Гары ТОМСАН-ТРЭБІЦКІ.**

Аўстралія.

## ТОЧКА ЗРЕНИЯ УЧЕНОГО

# С КЕМ ПОЙДЕТ РАБОЧИЙ КЛАСС

ИЮЛЬ 1989 года в СССР, видимо, запомнится тем, что впервые после Октябрьской революции 1917 года в столь массовом порядке на политическую арену советского общества вышел рабочий класс. До забастовок шахтеров рабочих здесь считали скорее потенциально активной силой—ведь у них, по существу, не было опыта выражения своей позиции, их попытки протеста и забастовок можно было перечислить по пальцам. Поэтому мощное и—главное—организованное выступление шахтеров оказалось для партийных и советских руководителей на местах и в центре полной неожиданностью. Михаил Горбачев признал, что эти выступления были самым драматическим моментом за четыре года перестройки.

Чего же хотели рабочие? Их требования, особенно вначале, носили достаточно узкий социально-экономический характер—улучшение условий труда и жизни, самостоятельность трудовых коллективов, ликвидация засилья ведомств. Но постепенно (хотя и не везде) появились и политические требования—ускорить выборы в местные Советы народных депутатов, создать независимые профсоюзы. По существу, мы имеем как бы двойной протест: во-первых, против отчужденной от народа административно-командной системы, которая продолжает сохраняться; во-вторых, против медлительности перестройки, которая в плане улучшения условий жизни масс пока ничего реального не дала.

Рабочие сделали то, что так долго не удавалось ни реформаторским силам в руководстве, ни радикалам-интеллигентам, ни неформальным объединениям. Они показали, что нельзя и дальше пытаться латать дыры в старом дредноуте, в то время как вода уже залила трюмы. Нужен новый, причем современный корабль, и капитан должен набрать новую команду. Эта истина, которая еще вчера осознавалась частично, сегодня стала очевидной. Рабочие выступления подтвердили, что кредит доверия к прежним структурам исчерпан. В момент испытаний все эти структуры оказались в стороне, даже в хвосте событий. Деморализация и дезориентация местных партийных, государственных, профсоюзных органов оказалась полнейшей. Понадобились «пожарные команды» из Москвы для того, чтобы хоть как-то погасить напряженность. Но положение в стране таково, что в любой момент может вспыхнуть новый конфликт, в любом месте.

Сегодня, изверившись в способности системы на местах самостоятельно разрешать существующие и возникающие противоречия, рабочие создали стачечные комитеты, которые, возможно, станут постоянными органами. Еще раз повтор[яется] то, что уже было в Пол[ьше], когда там образовалась «Солидарность». Только в СССР процесс овладения со стороны рабочих азами организации протеста идет на удивление быстро. Если в самое ближайшее время—до конца года—не будут приняты решительные меры по глубокому преобразованию партии, органов власти и общественных организаций, на местах может сформироваться новая параллельная политическая структура. Ситуация двоевластия и борьбы за власть станет реальностью. В стране, не имеющей традиций правовой демократии и опыта компромиссов и терпимости, крайностей в этой борьбе избежать будет очень трудно.

«Молодцы, рабочие!»—эту реакцию на события можно было услышать довольно часто. Но обоснована ли эта эйфория? И к чему может привести выход рабочих на общественную арену, причем в такой резкой форме? Многое зависит от того, каков он, рабочий класс, в своей массе. Ясно, что он очень неодинаков. Есть в нем слои, действительно заинтересованные в политических и хозяйственных реформах. Но не они составляют большинство. Гораздо шире слой тех, кто, выступая против коррупции и бесправия, против унизительной жизни, лозунги демократии и свобод воспринимает как «интеллигентские штучки». Есть и такие рабочие, и их немало, кто ратует только за удовлетворение своих сиюминутных интересов, а там хоть потоп.

Какие же слои здесь возьмут верх? Пока неясно. Ведь могут возобладать и те, кто будет требовать уступок, невзирая на катастрофическую ситуацию в стране. Удовлетворение требований шахтеров уже завтра может толкнуть на выступления другие отрасли. А где взять средства для удовлетворения их запросов, даже давно назревших? Словом, возможные последствия рабочих выступлений нельзя упрощать.

Какой характер примет формирующееся рабочее движение—этот процесс начался, и его не остановить,—зависит от того, с кем рабочие заключат свой союз—с реформаторами-радикалами, с умеренными, а может быть с консерваторами? Хотя само по себе рабочее движение и мощная сила, но, для того чтобы стать созидательной, ей нужны идеологи. Кто завоюет рабочих на свою сторону, пока неясно. Получить их доверие будет очень трудно—слишком велико их разочарование и в официальной идеологии, и [в по]литике, да и в интеллиге[нции] тоже. А леворадикальные силы в советском обществе пока не только разрозненны, но еще и замкнуты на самих себя. Поэтому и получилось, что интеллектуальное и рабочее движения действуют врозь.

А пока радикалы заняты размышлениями о вещах теоретических, за рабочих уже борются, и весьма активно, другие силы—аппаратные, шовинистические, реакционные. Борются при помощи старой демагогии, используя лозунги о ведущей роли рабочего класса и классовых интересах, о равенстве и справедливости, о державе и отечестве. Мы наблюдаем, например, попытки натравить рабочих на «инакомыслящих», кооператоров. Думаю, что это осознанная тактика теряющего контроль партийно-государственного аппарата.

Во многом здесь виноваты и сами сторонники революционных перемен. Возьмем, например, Прибалтийские республики—нельзя не понять пафос их стремления к национальному возрождению, к суверенитету, к подлинной демократии. Но, взявшись за дело, прибалтийские реформаторы недооценили необходимость диалога с русскоязычным рабочим классом, обеспокоенным своей дальнейшей судьбой, опасающимся ущемления своих прав. И каков результат? Усиление в среде рабочих консервативных, даже шовинистических настроений.

Какую сторону займет рабочий класс в стране, в ее отдельных регионах, покажет уже ближайшее будущее. Борьба за рабочих только начинается.

**Лилия ШЕВЦОВА,**
**кандидат философских наук.**

---

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

**НАРОДНОМУ ДЕПУТАТУ СССР,**
**ПЕРВОМУ СЕКРЕТАРЮ ЦЕНТРАЛЬНОГО КОМИТЕТА**
**КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БЕЛОРУССИИ**
**Ефрему Евсеевичу СОКОЛОВУ**

Многоуважаемый Ефрем Евсеевич!

В преддверии объявленного ЮНЕСКО международного празднования 500-летия просветителя белорусского народа и книгопечатника Франциска Скорины и проведения в Полоцке Всесоюзного дня славянской письменности и культуры советская творческая общественность вынуждена обратиться к Вам, многоуважаемый Ефрем Евсеевич, со следующим.

В областном центре республики г. Гомеле чудом сохранился единственный в Белоруссии православный кафедральный Петропавловский собор, памятник архитектуры начала XIX века. До 1960 года собор был в ведении Русской православной церкви и находился в образцовом состоянии. 30 октября 1960 года было принято решение горсовета «О использовании собора по прямому назначению и устройстве в нем планетария и маятника Фуко». Не будем комментировать это решение.

Недавно за нерентабельностью прекратил свою деятельность и планетарий. Встал вопрос о дальнейшей судьбе собора, и Гомельский горсовет принял решение разместить в памятнике архитектуры, истории и культуры, в исконно православном соборе, — концертный зал органной музыки. Такое намерение, к сожалению, нельзя считать правомерным и хорошо продуманным.

Передавать культовые здания какимлибо организациям следует только в тех случаях, когда их нельзя использовать по прямому назначению. В данном же случае в горсовете имеются тысячи слезных прошений верующих вернуть им кафедральный собор, к тому же община верующих зарегистрирована соответствующими инстанциями.

Открытие в соборе концертного зала не является наилучшим решением, так как установка органа, которого там не было, приведет к искажению интерьера собора. Органная музыка всегда была неотъемлемой чертой католической церкви, и, конечно, в православном соборе византийского, а не готического стиля орган будет выглядеть и звучать неестественно.

Кроме того, в городе с полумиллионным населением более целесообразно построить универсальный концертный зал, где могла бы звучать и классическая, и народная, и эстрадная музыка. Только таким образом можно приобщать слушателей, особенно молодежь, к искусству во всем многообразии его жанров.

Надеемся, что назревший вопрос о передаче собора религиозной общине будет решен Вами, многоуважаемый Ефрем Евсеевич, в духе нашего времени, то есть с максимальным вниманием и уважением прав верующих жителей Гомеля.


ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

НАРОДНОМУ ДЕПУТАТУ СССР,
ПЕРВОМУ СЕКРЕТАРЮ
ЦЕНТРАЛЬНОГО КОМИТЕТА КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БЕЛОРУССИИ
ЕФРЕМУ ЕВСЕЕВИЧУ СОКОЛОВУ

Многоуважаемый Ефрем Евсеевич!

**Академик Дмитрий ЛИХАЧЕВ, Герой Социалистического Труда, председатель Советского фонда культуры; академик АПН Сергей МИХАЛКОВ, Герой Социалистического Труда, лауреат Ленинской и Государственных премий СССР, первый секретарь Союза писателей РСФСР; Иван КОЗЛОВСКИЙ, народный артист СССР, Герой Социалистического Труда, лауреат Государственных премий СССР; Людмила ЗЫКИНА, народная артистка СССР, Герой Социалистического Труда, лауреат Ленинской премии; Илья ГЛАЗУНОВ, народный художник СССР; академик Никита ТОЛСТОЙ, председатель Советского комитета славистов; Михаил САВИЦКИЙ, народный художник СССР, народный депутат СССР, депутат Верховного Совета БССР; Иван ШАМЯКИН, народный писатель БССР, Герой Социалистического Труда, депутат Верховного Совета БССР; Сергей БОНДАРЧУК, народный артист СССР, Герой Социалистического Труда, лауреат Ленинской и Государственных премий СССР, депутат Верховного Совета РСФСР; академик Борис РАУШЕНБАХ, лауреат Ленинской премии; Василь БЫКОВ, народный писатель БССР, Герой Социалистического Труда, народный депутат СССР; Заир АЗГУР, народный скульптор СССР, Герой Социалистического Труда, депутат Верховного Совета БССР; Иван ЧИГРИНОВ, председатель Белорусского фонда культуры, депутат Верховного Совета БССР; Виталий СЕВАСТЬЯНОВ, летчик-космонавт СССР, дважды Герой Советского Союза; Петр КЛИМУК, летчик-космонавт СССР, дважды Герой Советского Союза, народный депутат СССР; Людмила КАСАТКИНА, народная артистка СССР, лауреат Государственной премии СССР.**

ДА ГАРМАНІЗАЦЫІ АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧАГА СУПОЛЬНІЦТВА НАРОДАЎ, НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ І ДЗЯРЖАЎ

# ВЯРТАННЕ ДОЎГУ: БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

**СЁЛЕТА Ў «БІБЛІЯТЭЧЦЫ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» ВЫЙДЗЕ КНІГА ДОКТАРА ФІЛАСОФСКІХ НАВУК У. КОНАНА «СВЯТЛО ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ». ДРУКУЕМ РАЗДЗЕЛ З БУДУЧАГА ВЫДАННЯ.**

Апошняе дзесяцігоддзе нашага дынамічнага і пакутлівага веку, будзем спадзявацца, стане вырашальным этапам эканамічнай і сацыяльна-палітычнай перабудовы грамадства, эпохай духоўнага абнаўлення краіны і нацыянальнага адраджэння ўсіх яе народаў. У стратэгічнай перспектыве, хочацца верыць, мы ідзём да гарманізацыі агульначалавечага супольніцтва народаў, нацыянальнасцей і дзяржаў нашай агульнай Маці–Зямлі. Гарантыяй ажыццяўлення гэтых ідэалаў з'яўляецца вяртанне да спрадвечных гуманістычных каштоўнасцей нацыянальных культур, выпрацаваных на працягу тысячагоддзяў духоўнага развіцця народаў, асобных рэгіёнаў і гістарычных цывілізацый.

Натхняе тое, што неабходнасць усведамлення духоўнай каштоўнасці агульначалавечай культуры ў яе шматнацыянальных праявах сёння сцвярджаецца інтэлектуальнымі лідэрамі нашай краіны і падтрымліваецца яе вярхоўным палітычным кіраўніцтвам. Феномен іх духоўнай відушчасці невыпадковы, бо народы нашай Бацькаўшчыны сапраўды выпакутавалі вялікую Праўду жыцця. Ідэалы *дабра, сацыяльнай і нацыянальнай* справядлівасці стагоддзямі назапашваліся, крынічылі ручайкамі і рэкамі нацыянальных культур, уліваліся ў глыбокае мора агульначалавечай духоўнасці. Гарантыяй захавання міру на зямлі, стабілізацыі гарманічнай супольнасці ўсіх дзяржаў і народаў з'яўляецца гуманізацыя палітыкі: яна павінна грунтавацца на дакладным навуковым прадбачанні і прынцыпах агульначалавечай маралі. І яшчэ — на ўсведамленні сваёй службовасці адносна чалавечай асобы і нацыянальнай «асабістасці» кожнага вялікага і малога народа.

Навуковыя і маральныя прынцыпы ўнутранай і міжнароднай палітыкі нашай краіны распрацаваны XXVII з'ездам і XIX партыйнай канферэнцыяй КПСС, шматгранна абмяркоўваюцца і ўдасканальваюцца ў творчых дыскусіях пісьменнікаў, вучоных, публіцыстаў, дзеячаў мастацтва, у праграмах нефармальных арганізацый, у агульнанацыянальных рухах за перабудову і духоўнае адраджэнне народаў СССР. Духоўныя сілы ўсяго грамадства падключаюцца да палітычнага жыцця, і ў гэтым руху — гарантыя ад выпадковасці, валюнтарызму, ад эканамічнага і бюракратычнага авантурызму. На Пленумах ЦК КПСС, якія адбыліся пасля XIX партканферэнцыі, распрацаваны праграмы палітычнай і эканамічнай рэформаў, аграрнай палітыкі ў сучасных умовах.

Ёсць, аднак, сфера чалавечых суадносін, у якой грамадска-палітычнае жыццё арганічна спалучаецца з духоўнасцю, ствараючы спецыфічную для нашага стагоддзя праблему «экалогіі культуры». Яна — параджэнне нашага навукова-тэхнічнага, урбанізаванага грамадства, вынік негатыўных тэндэнцый да стандартызацыі грамадскага быцця, штодзённага побыту, разбурэння традыцыйнага вясковага ладу жыцця, дэнацыяналізацыі «малых» і нават адносна вялікіх этнасаў, нівеліроўкі іх духоўнай самабытнасці, што згубна ўплывае не толькі на літаратуру і мастацкую культуру, але і на ўвесь спектр штодзённага побыту і маралі.

Жахлівыя скажэнні самой прыроды сацыялізму ў рэпрэсіўныя дзесяцігоддзі сталінізму, а пасля і практыка фарсіраванага зліцця нацый, моўна-нацыянальны нігілізм бюракратычных сфер (а таксама бюракратызаваных функцыянераў ад навукі і культуры) у перыяд брэжнеўскага застою прывялі да абвастрэння нацыянальных супярэчнасцей у краіне, асабліва ў сферы культуры і моўнай палітыкі. Вось чаму сёння, калі канфармісцкая «філасофія», што доўга паразітавала на схаластычным словаблудстве вакол быццам бы канчаткова вырашанага ў нас «нацыянальнага пытання», надоўга і, будзем спадзявацца, назаўсёды замоўкла, наглядаецца разгубленасць палітыкаў і сацыяльных практыкаў у гэтай галіне грамадскага жыцця. Не лепшым чынам выглядаюць спробы паасобных грамадазнаўцаў завуаліравань супярэчнасці, ігнараваць негатыўныя вынікі для культуры і маральнага здароўя грамадства.

Напярэдадні чарговага Пленума ЦК КПСС, на якім плануецца распрацаваць праграму гарманізацыі цыянальных адносін у наш шматнацыянальнай краіне, ёсць патрэба звяртацца да вопыту моўнанацыянальнай палітыкі 20-х гадоў — ленінскага этапу ў сацыялістычным будаўніцтве. Як вядома, пазней ва ўмовах сталінска-бюракратычнай дыктатуры ў БССР і іншых рэспубліках не толькі адмовіліся ад ленінскай моўнанацыянальнай палітыкі, але нават дэзавуіравалі яе, рэпрэсіравалі тых, хто яе праводзіў у жыццё. Зразумела, і тады, у 20-я гады, былі цяжкасці і супярэчнасці ў рэалізацыі нацыянальнай палітыкі, аднак сёння яны ўжо належаць гісторыі (і адпаведна — навукоўцам-гісторыкам), у той час як канструктыўная, не рэалізаваная ва ўмовах сталінізму праграма ўсталявання фактычнага раўнапраўя нацыянальных культур усіх народаў СССР набыла новыя грані сваёй актуальнасці.

У БССР гэта палітыка партыі і дзяржавы называлася беларусізацыяй. Сутнасць яе ў тым, каб надаць роднай мове большасці насельніцтва рэспублікі функцыі мовы дзяржаўнай, перайсці на беларускую мову навучання і выхавання ў большасці школ і дашкольных устаноў, павысіць яе ролю ў галіне культуры, вышэйшай і сярэдняй прафесіянальнай адукацыі, друку, у сферы сацыяльна-бытавога абслугоўвання, армейскай службе, дзяржаўнай і кааператыўнай, эканамічнай дзейнасці. Адначасова нацыянальным меншасцям БССР гарантавалася права на карыстанне іх роднай мовай ва ўсіх сферах грамадска-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця. У шырокім культурна-нацыянальным сэнсе пад палітыкай беларусізацыі, як адзначалася ў афіцыйным дакуменце Нацыянальнай камісіі ЦВК БССР, «належыць разумець: «1) развіццё беларускай культуры (школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы на беларускай мове, беларуская літаратура, выданне беларускіх кніг, навукова-даследчая праца па ўсебаковаму вывучэнню Беларусі і г. д.); 2) вылучэнне беларусаў на партыйную, савецкую, прафесіянальную і грамадскую працу; 3) перавод працы партыйнага, дзяржаўнага, прафесіянальнага, кааператыўнага апаратаў і часцей Чырвонай Арміі на беларускую мову».

Дэмакратызм і рэальнасць ажыццяўлення палітыкі беларусізацыі вынікалі з яе моцнай укаранёнасці ў традыцыі нацыянальнай культуры, у духоўныя глыбіні народнага быцця. Бо найперш мова народа, а яшчэ яго традыцыйны лад жыцця і фальклор — генетычная аснова духоўнага і сацыяльнага адзінства этнасу, карэнні яго гістарычнай памяці. Страціўшы родную мову, народ губляе этнічныя арыенціры ў сацыяльнай прасторы і духоўную пераемнасць паміж пакаленнямі. Вось чаму вечна актуальныя для нас простыя словы мужыцкага паэта Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!»

Адной з найважнейшых функцый нацыянальнай дзяржавы было і застаецца стварэнне ўмоў для развіцця самабытнай культуры нацыі — носьбіта дзяржаўнага суверэнітэту. Ні Рэч Паспалітая ў другой палове XVII—XVIII стагоддзяў, ні царская Расія ў XIX — пачатку XX стагоддзяў не выконвалі гэтага прызначэння для беларускага народа, і ў той жа час неабмежавана выкарыстоўвалі яго прыродныя, эканамічныя і духоўныя рэсурсы. У такіх умовах школа, друк, дзяржаўная і грамадская дзейнасць, афіцыйнае справаводства, нават літаратура і прафесійныя формы мастацтва дэнацыяналізоўваліся, парывалі сувязі з народнай культурай. І толькі нацыянальная мова ды фальклор — калектыўная творчасць пераважна вясковага люду, слаба ўключанага ў сферу ўздзеяння афіцыйных сацыякультурных інстытутаў, захавалі гістарычную памяць народа, здольнага да нацыянальнага адраджэння.

Значэнне роднай мовы ў якасці «паскаральніка» духоўнай культуры, як ужо адзначалася, усвядоміў Ф. Скарына. Праз беларускую «Мужыцкую праўду» звяртаўся да сялянства ў час паўстання 1862—1863 гадоў К. Каліноўскі. З гэтага часу родная мова становіцца найважнейшым фактарам нацыянальнай свядомасці, а пазней — духоўным аргументам на карысць палітычнага самавызначэння беларусаў. Мы яшчэ і сёння як належыць не ацанілі ролі «Нашай Нівы» і тых беларускіх перыядычных выданняў, якія прадаўжалі «нашаніўскую» традыцыю самаахвярнай працы для развіцця беларускай мовы, літаратуры і мастацтва. А між тым яны сталі фактарамі нацыянальнага самавызначэння беларусаў, ідэя якога выспявала ў асяроддзі народнай дэмакратыі і ў рэшце рэшт набыла палітычнае афармленне (стварэнне Народнага сакратарыята Беларусі, Маніфест 1 студзеня 1919 года аб утварэнні БССР).

**Уладзімір КОНАН,**
**доктар філасофскіх навук.**

**(Заканчэнне будзе).**

## *І. СПАДЧЫНА*







**Бытуе меркаванне, што ў Беларусі захавалася не так ужо і многа сведчанняў ранейшых часоў. Іх забіралі войны, што часта шумелі ў нашых краях, час, які імкліва змяняў аблічча гарадоў і вёсак, а або проста людское бяздушша. І тым не менш зямля беларуская яшчэ захоўвае мноства помнікаў розных часоў. У старажытных саборах з фрэсак і ікон задумліва глядзяць на нас прашчуры. Нярэдка ў іх руках — кніга, крыніца мудрасці, ведаў. І як не ганарыцца нам, што менавіта на зямлі беларускай нарадзіўся адзін з выдатных асветнікаў старажытнасці Кірыла Тураўскі. «Златоустом, паче всех воссиявших на Руси», называлі яго сучаснікі, а тых, хто жыве ў наш час, усё яшчэ ўражвае паэтычнасць і лірызм яго твораў. З беларускай зямлі выйшаў першадрукар Францыск Скарына. У гарадку Мсціслаў — карані Пятра Мсціслаўца, які заснаваў разам з Іванам Фёдаравым першую друкарню ў Маскве. Напэўна, сімвалічна, што ў 1980 годзе тут жа, у Мсціслаўі, была знойдзена берасцяная грамата. Яна ляжала ніжэй сёмага рада вулічнага насцілу з бярвення, машчэнне якога датуецца 1249 годам. А гэта значыць, і ў штодзённым, асабістым жыцці нашы продкі ўжо многа вякоў карысталіся пісьменнасцю.**

**НА ЗДЫМКАХ: унікальная па сваёй прыгажосці і суровасці царква-крэпасць у Сынкавічах, вёсцы Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Гэта самы старажытны ў Беларусі храм абароннага тыпу XV—XVI стагоддзяў, своеасаблівае сведчанне майстэрства старажытных дойлідаў; Жыровіцкі манастыр (Слонімскі раён Гродзенскай вобласці). Епіскап пінскі, вікарый Мінскай епархіі Канстанцін; тэтраевангелле Пятра Мсціслаўца 1575 г. Вільня. Друкарня купцоў Мамонічаў (з фондаў Веткаўскага музея народнай творчасці).**

*(У наступных нумарах мы прадоўжым фотарэпартаж «Спадчына»).*

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# СПЕЎ АБУДЖАНАЙ СУРМЫ

Вам не даводзілася чуць сурму? У такім разе застаецца толькі пашкадаваць, што гучанне гэтага старадаўняга беларускага музычнага інструмента не кранула вашай душы. Яно ж поклічнае, ударнае, такое, што хочацца кінуць, здавалася б, самыя неадкладныя справы і накіравацца туды, дзе гучыць сурма. У рэшце рэшт раней так і было. Сурма, ці, як называлі яе яшчэ, турыны рог, заўсёды спадарожнічала плытагонам у іх далёкіх падарожжах. Звычайна ігрой на сурме яны папярэджвалі таварышаў аб крутых паваротах ці вірах на рацэ, іншай небяспецы. Турыны рог збіраў нашых продкаў і на розныя ўрачыстасці.

Сталася, аднак, так, што сурма не гучала больш стагоддзя. Забыліся людзі пра гэты музычны інструмент, аддалі перавагу больш новым. Вярнуў жа сурму да жыцця вядомы музыкант, збіральнік і рэстаўратар ранніх народных інструментаў У. Пузыня. З ёю і выступае ён у час народных гулянняў і святаў. Дзякуючы У. Пузыню, з'явілася сурма і ў нашых выканаўцаў.

Тым самым быў зроблены яшчэ адзін крок вяртання да народных вытокаў. Адраджэнне турынага рога ўзрадавала многіх шчырых прыхільнікаў нацыянальных традыцый. Малады ж паэт А. Мінкін адразу пасля паведамлення ў газеце «Літаратура і мастацтва» аб вяртанні сурмы (было гэта ў першым нумары штотыднёвіка за 1981 год) напісаў аднайменны верш, даўшы яму падзагаловак «Гістарычны эцюд», у якім вітаў «працяглы спеў абуджанай сурмы».

Гэтую назву ён даў і свайму першаму паэтычнаму зборніку, што пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». «Сурма» не толькі не згубілася сярод аналагічных дэбютанцкіх кніжак года, а, наадварот, вылучылася з шэрагу іх удумлівым стаўленнем аўтара да гісторыі роднага краю, яго гарачым жаданнем суаднесці дзень учарашні і сённяшні, глянуць на падзеі мінуўшчыны з вышыні сучаснасці.

Вяртанне тым больш важнае, што яго робіць зусім не гуманітарый па адукацыі і прафесіі. Алег Мінкін нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Чарняўка, што ў Хоцімскім раёне на Магілёўшчыне, скончыў Маскоўскі інстытут інжынераў сельскагаспадарчай вытворчасці. За час навучання ў сталіцы не растраціў любові да роднага слова, матчынай песні.

Аднак, каб любоў гэтая падмацавалася канкрэтнымі дзеяннямі, неабходны былі ўсё ж канкрэтныя, пры тым спрыяльныя ўмовы. Яны з'явіліся, калі А. Мінкін працаваў у Наваполацку, дзе знайшоў сярод тутэйшых маладых паэтаў і празаікаў аднадумцаў, апантаных — у добрым сэнсе слова — сапраўднай захопленасцю гісторыяй.

Гістарычным подыхам і прасякнута першая кніжка А. Мінкіна, гэтаксама, як і ўся яго творчасць. Таму пануюцце «сурма» для паэта не толькі пэўны тэрмін. Яно для А. Мінкіна азначае куды больш. Сурма — мінулае, учарашняе, тое, што не мае права на забыццё. Мінулае ж заўсёды побач з намі. Неабходна толькі ўважліва прыглядзецца наўкола. Гэты подых часу асабліва прысутнічае ў вершы «У Полацку»:

**Апоўначы, як заціхае**
**гудзенне машын,**
**Калі засынаюць змарнелыя**
**вулкі і плошчы,**
**Ці чуеш ты, як капытоў**
**набліжаецца пошчак,**
**Між гмахаў маўклівых**
**ледзь чутны, ці чуеш,**
**скажы?**

У творы сапраўды быццам прысутнічае сам гэты пошчак мінуўшчыны. Ледзь чутны, ён тым не менш прымушае прыслухацца да яго, паспрабаваць угледзець, «як верхнік ныраце ў тумане густым на белым кані, у блішчатыя латы закуты», убачыць, як «срэбна зіхціць на шчыце яго крыж шасцікутны, і меч яго ўзняты, і мантыя ўецца, як дым».

І вось ужо аўтар не хавае таго галоўнага, дзеля чаго, уласна кажучы, і пісаўся твор, — гучыць запрашэнне скіравацца да вершніка, адчуць сваю паяднанасць з ім, зразумець, наколькі патрэбныя адзін аднаму той далёкі, безыменны вершнік і наш сучаснік, для каго подых гісторыі можа стаць і ачышчальным паветрам, і проста ветрам, які прашугае міма — усё залежыць ад таго, як да яго паставіцца:

**Выходзь жа,**
**пакуль яшчэ пошчак ціхі**
**не заціх,**
**Пакуль яшчэ меч**
**у нястомнай руцэ ён**
**трымае,**
**Змарыўся ўжо верхнік,**
**і толькі таму ён [illegible]ывае,**
**Што зараз павінен, павінен**
**цябе ён знайсці!**

Не часта такія вершы з'яўляюцца і з-пад пяра сталых паэтаў. Пэўная дэкларатыўнасць апошніх радкоў не паслабляе агульнага ўражання ад твора. Яна патрэбна, каб кожны, хто чытае верш, разумеў: і ад яго таксама, ад яго можа больш, чым ад іншых, залежыць — будуць ці не на нашай зямлі свае «манкурты», для каго проста няма гісторыі і хто з пагардай ставіцца да мінулага свайго народа.

На гэтай высокай ноце далучанасці — кожным словам, нервам, клеткай — да гісторыі і прагучала «Сурма» А. Мінкіна, так прыхільна сустрэтая і чытачамі, і крытыкай. Адзін з самых патрабавальных сярод іх, Анатоль Клышка, думаецца, здолеў выдзеліць найбольш істотнае ў творчасці аўтара: «І там, дзе ён не проста датыкаецца да гісторыі, а **перажывае яе ў вершы** (вылучана А. Клышкам), там з'яўляюцца сапраўдныя лірычныя творы».

Верш «Радзімічы» — з шэрагу такіх твораў. Па-мастацку асэнсоўваючы звычай нашых продкаў: «нябожчыка продкі не клалі ў магілу пад крыж: укопвалі слуп паміж іншых слупоў незлічоных, акораны дбайна, садзілі нябожчыка ў човен, і спальвалі човен, і попел збіралі ў гладыш», А. Мінкін думкай сваёй сягае ў касмічныя далі, незнарок задумваючыся аб неўміручасці жыцця ў Сусвеце.

У вершах А. Мінкіна сустракаеш імёны Паўлюка Багрыма, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, паэта прываблівае далёкі Спартак і неўміручыя Дантэ і Гамер. У адных выпадках гэта прысвячэнне твораў тым, чый вобраз прываблівае, у другіх — жаданне па-свойму асэнсаваць вядомыя матывы. Прынамсі, неблагімі атрымаліся «Наследаванні Дантэ». Перад усім — павага да беларускага фальклору, творчае асэнсаванне яго. Так нарадзілася ў А. Мінкіна падборка «Наследаванні народнаму», асобныя вершы якой самі гавораць за сябе: «Агнявік», «Дамавік», «Пугач», «Белабог», «Вадзянік», «Хохлік»...

Паэтызацыя міфічных істот адбываецца ў рэчышчы іх адушаўлення і адначасова адухоўлівання, што ўзмацняе гуманістычныя, агульначалавечыя матывы. Скажам, у вершы «Агнявік» А. Мінкін па-сутнасці ўслаўляе чалавека-працаўніка: «У полымі вясёлым печы рухавы скача чалавечак... У чыгуны, як у мішэні, ён вугалькоў шпурляе жмені... Калі ж агонь згасае ў печы — у прысак лезе чалавечак і спіць, згарнуўшыся клубком, чырвоным стаўшы вугальком».

Уважлівы чытач не змог не заўважыць, што ў творы нацягнутым выглядае параўнанне чыгуна з мішэнямі. Яно не толькі няўдалае, штучнае ў гэтым стылістычным асяроддзі. Уся бяда яшчэ і ў тым, што словы гэтыя ўзяты, калі можна так сказаць, з розных часавых пластоў. Куды больш сучаснае «мішэні» ніяк не стасуецца да гаворкі пра агнявіка, узятага яшчэ з дагістарычных часоў. Дарэчы, пакуль што ў А. Мінкіна падобная неадпаведнасць паміж самой задумай і ажыццяўленнем яе назіраецца не так і рэдка.

Напрыклад, у адным са сваіх вершаў ён няблага ўжыў такі вобраз: «Пад вярбінай прыбярэжнай хлопчык Май прачнецца ў сховах». Але далей, як кажуць, пайшло-паехала. У творах сустракаеш і «дзядзьку Лістапада», і «хлопца Жніўня», «Чэрвеня-чараўніка», і «бабульку Восень»... Шкодзіць асобным творам і спроба падацца арыгінальным, калі вобразы пачынаюць як бы нанізвацца адзін на адзін, а сама думка зацямняецца.

Анатоль Клышка пра гэта сказаў дакладна: «З болем глядзіш на гэтае змаганне са словам, бо яно, стаўшы побач з другім словам, звыкла выказваць нешта і таму супраціўляецца абяссэнсаванню сябе».

На шчасце, паэтава слова ў большасці сваёй пераадольвае супярэчнасці творчага росту. Яно ўмее быць і доказна-дакладным, і ўзрушліва-эмацыянальным, і сонечна-пяшчотным. Спрабуючы гаварыць з гісторыяй «на ты», А. Мінкін не замыкаецца ў рэчышчы гістарычных матываў, хоць, безумоўна, аддае ім перавагу. .

Як і многія ў яго ўзросце, А. Мінкін задумваецца: «Хто я: цень ці парастак, прыгрэты лёсам, знікомы водбліск ці прамень, што з вышыні прабіўся коса, накрэсленае на вадзе ці рыска на скрыжалі вечнай...» Задумваецца, шукае адказ... Надараецца і так, што пытані гэтыя і адказы на іх не так і шмат новага нясуць у сабе. Гэта, аднак, не значыць, што яны непатрэбныя. Кожнае новае пакаленне па-свойму сцвярджае сябе, і кожнае новае пакаленне, калі яно хоча заставацца менавіта пакаленнем, а не простым працягам роду чалавечага на зямлі, не павінна нічога браць на веру, нават у больш вопытных, а да ўсяго даходзіць самому.

У гэтым сасцвярджэнні і самаўдасканаленні (а паняцці гэтыя, як няцяжка заўважыць, самым цесным чынам звязаны, правільней, узаемазвязаны між сабой) выбраны правільны арыенцір. Зварот да гісторыі для А. Мінкіна — і магчымасць узважыць сваю неабходнасць на зямлі, і пераканананасць невыпадковасці чалавека на ёй, і патрэбнасць жыць мінулым, каб прадугадваць будучыню.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

## ВЫЗВАЛЕННЕ АД ІДЭАЛАГІЧНЫХ КАНОНАЎ

# МІФЫ САВЕЦКАГА КІНО

Лепшыя творы савецкага кінематографа трывала ўвайшлі ў класіку сусветнага кіно. Сяргея Эйзенштэйна, Барыса Барнета, Аляксандра Даўжэнку, а цяпер таксама Андрэя Таркоўскага і Сяргея Параджанава цэняць перш за ўсё як выдатных мастакоў, якія ўнеслі ўклад у развіццё мовы, выразных сродкаў кінематографа. Ёсць нямала і іншых савецкіх рэжысёраў, работы якіх выклікаюць цікавасць арыгінальным мастацкім бачаннем, сур'ёзным духоўным зместам.

Разам з тым савецкі кінематограф, калі прааналізаваць працэс яго гістарычнага руху, можа быць разгледжаны як важкая ідэалагічная структура, што міфалагізуе масавую свядомасць.

У 20-я гады маладое савецкае кіно і маладая рэвалюцыйная ідэалогія ўжываліся параўнаўча мірна. Мастацкі авангард здаваўся працягам рэвалюцыйнага працэсу, ломка форм жыцця і форм мастацтва дапаўнялі адно аднаго.

Але ўжо пачынаючы з 30-х гадоў назіраецца рэзкае разыходжанне паміж творчымі імкненнямі мастакоў і ідэалагічнымі ўстаноўкамі сталінізму, які набіраў сілу.

Вядома, і літаратура, і іншыя віды ма[illegible]тва трапілі пад ідэалагіч[illegible] дыктат. Але ў паэзіі, у прозе, у жывапісе працягвалі існаваць альтэрнатыўныя кірункі, якія не ўкладваліся ў рамкі дактрын сацыялістычнага рэалізму. Што датычыць кіно, якое ператварылася ў дараг[illegible]астановачнае відовішча і [illegible]е субсідзіравалася і татальна кантралявалася дзяржавай, магчымасць для альтэрнатывы была тут мінімальная. Толькі зараз гісторыкі вяртаюць з забыцця спробы асобных майстроў кінематографа супрацьстаяць дыктату.

У цэлым жа сталінскае кіно трымалася на трох кітах: апалагетызацыя нацыянальнай гісторыі ў духу «правадырства»; міфалагізацыя простага чалавека з народа, які «знайшоў шчасце пры сацыялізме»; спекуляцыя на лозунгах «народнасць» і «масавасць» з мэтай эфектыўнай апрацоўкі масавай свядомасці.

Актыўна карыстаючыся фармуліроўкай Леніна аб тым, што кіно з'яўляецца «найважнейшым з мастацтааў», сталінскія ідэолагі наўмысна пры гэтым замоўчвалі, што правадыр рэвалюцыі вёў гаворку пра малапісьменную адсталую краіну. Ператварыўшыся ж у краіну моцнай прамысловасці і амаль усеагульнай пісьменнасці, Расія — вось парадокс — у культурных адносінах засталася безабароннай ад маніпуляцыі прапагандысцкімі міфамі, якія распаўсюджваў не ў апошнюю чаргу кінематограф, сапраўды стаўшы ў гэтым сэнсе «найважнейшым з мастацтваў».

Гэта не азначае, зрэшты, што мастакі савецкага кіно пагалоўна выконвалі ролю вінцікаў у адладжаным прапагандысцкім механізме. Кожны з іх па-свойму перажыў творчую драму. Ці мае права чалавек дзеля «перамогі ідэі» здрадзіць сваім блізкім — бацьку, жонцы, нявесце? — гэтае пытанне павінна было вырашацца на экране толькі станоўча. Не выпадкова ў фільме Івана Пыр'ева «Партыйны білет», у «Вялікім грамадзяніне» Фрыдрыха Эрмлера, у ленінскай дылогіі Махаіла Рома мы сустракаем вобразы каварных шпіёнаў і «ворагаў народа», якія ўтойваюць сваю сутнасць пад інтэлігентнай знешнасцю. Такіх персанажаў трэба было ўсімі сродкамі выкрываць — выкананне гэтага наказу «па-мастацку» падмацоўвала развязаную Сталіным і яго спадручнымі хвалю рэпрэсій, якія закранулі ў першую чаргу ўсю інтэлігенцыю.

Нават нясмелыя спробы прызнаных карыфеяў савецкага кіно падысці да ідэалагічных міфаў крытычна прыводзілі да канфліктаў і карных санкцый. Самы драматычны прыклад несумяшчальнасці канонаў міфалагізаванай ідэалогіі і мастацкай творчасці дае фільм Эйзенштэйна «Іван Грозны». Запушчаны ў вытворчасць як гімн правадырам рускай гісторыі з мэтай абудзіць сучасныя алюзіі і нацыянальныя пачуцці, ён у сілу геніяльнасці Эйзенштэйна стаў прыгаворам тыранаўладдзю і быў падвергнуты ідэалагічнай абструкцыі.

У даследчыка савецкага кіно эпохі сталінскага неакласіцызму яўныя аналогіі ўзнікаюць з кінематографам «трэцяга рэйха» і мусалініеўскай Італіі. Цэлы шэраг міфалагічных мадэлей, што вызначаюць твар гэтых кінематаграфій, распрацоўваецца ў 30- я гады паралельна, нягледзячы на адрозненне іх сацыяльных і культурных вытокаў. Гэта, у прыватнасці, апалагетызацыя спартыўнай мужнасці па прынцыпу «ў здаровым целе здаровы дух».

Аздараўленне грамадскай сітуацыі, XX з'езд КПСС, дэсталінізацыя, якая пачалася было, адбіліся, вядома, і на кінематографе. Міфалагічнае мысленне пачало здаваць пазіцыі. І хаця нельга не ўбачыць яго рэцыдываў (што асабліва прыкметна ў перыяд застою, які змяніў першую ідэалагічную і культурную адлігу: напрыклад, рускі варыянт міфа «зямлі і крыві» прадстаўлены ў кінамеладрамах Яўгенія Матаеева), разлік з міфамі становіцца адной з галоўных мастацкіх задач буйнейшых мастакоў сучаснага савецкага кіно — Глеба Панфілава, Атара Іаселіані, Элема Клімава, Аляксея Германа, Вадзіма Абдрашытава. Так, Герман у карціне «Мой сябар Іван Лапшын» паказвае адваротны бок міфалогіі 30-х гадоў, не вульгарна «адвяргаючы» яе, а знутры старанна аналізуючы.

Асобае месца займае міф у творчасці Андрэя Таркоўскага. Час, калі ён фарміраваўся, быў напоўнены новымі ілюзіямі і міфамі, што культывавала чалавецтва, якое ажывілася пасля сусветнай вайны. Людзі хацелі верыць у хуткі прагрэс, у тое, што ім на дапамогу прыйдуць цуды навукі, мірны атам, ёгаўская гімнастыка, тэлепатыя, гіпноз і г. д. Але на змену эйфарыі прыйшоў аналіз... Таркоўскі ў фільме «Салярыс» кампраметуе тэхнакратычны міф, таксама, як у «Андрэі Рублеве» не прызнае русафільскі міф аб месіянскім шляху, аб выбранніцтве рускага народа...

Характэрны парадокс у тым, што пасля доўгіх гадоў непрызнання міфалагізаванай аказалася ў Савецкім Саюзе і сама фігура Таркоўскага...

Пры ўсіх супярэчнасцях і складанасцях, якія перажывае сёння савецкае кіно, яно выглядае значна больш вызваленым ад канонаў ідэалогіі, ад дагматаў, чым у 30-я і нават 60-я гады. Ніхто не можа гарантаваць, што не ўзнікнуць новыя міфы, напрыклад, «міф аб перабудове». І ўсё-такі савецкі кінематограф як адзіная міфалагічная структура застаўся ў мінулым. Ён больш не існуе...

**Андрэй ПЛАХАЎ,**
**сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР.**

# У ДОМЕ—НІБЫ Ў МУЗЕІ

Уздзеншчына — маляўнічы куток Беларусі. На яе тэрыторыі шмат лясоў. Тут можна знайсці рэдкае дрэва, кветкі, якіх няма ў іншых мясцінах. Тут бярэ пачатак рака Нёман, пра якую складзены песні. А яшчэ над Нёманам жывуць працавітыя людзі, якія ўмеюць у вольную хвіліну павесяліцца, карысна правесці час.

Нядаўна мне давялося пазнаёміцца з адной сям'ёй у вёсцы Нёман — Мікалаем і Лідзіяй Цыбульскімі. Дом іх, а таксама невялікая лазня ўпрыгожаны шматлікімі ліштвамі.

Калі мы завіталі ў іх дом, гаспадары займаліся сваёй справай: схіліўшыся над калаўротам, Лідзія Міхайлаўна прала, Мікалай Канстанцінавіч штосьці майстраваў.

— Цяпер мы з жонкай на заслужаным адпачынку,— гаворыць гаспадар.— У свой час я выкладаў урокі працы і чарчэнне ў Нёманскай сярэдняй школе. Выраслі, пайшлі ў самастойнае жыццё дзеці. Сын Мікалай — ваеннаслужачы, Леанід працуе інжынерам па тэхніцы бяспекі ў мясцовым калгасе «Нёман», а малодшая Таццяна спявае ў тэатры оперы і балета ў Мінску. У кожнага з іх свае справы і клопаты. Параўнаўча рэдка збіраемся разам. І толькі летам, калі прыязджаюць да нас усе ўнукі, у доме становіцца весела. Цяпер жа, каб не сумаваць, мы знаходзім для сябе захапляючую справу. Паверце: і час праходзіць значна хутчэй, і атрымліваем ад сваіх заняткаў вялікую асалоду.

У свой час М. Цыбульскі прывіваў вучням любоў да працы. Многія яго выхаванцы сталі добрымі рабочымі, будаўнікамі, якімі можа ганарыцца настаўнік. І вось цяпер, будучы на пенсіі, ён па-ранейшаму не развітваецца з рубанкам, нажоўкай, лобзікам, прыборам для выпальвання па дрэву. «Са звычайнай дошкі вырабіць такое, што ў мэблевым магазіне падобнага не ўбачыш»,— гаворыць аднавяскоўцы. У доме зроблены ім і прыгожа аформлены табурэткі, сталы, кніжная шафа. Малюе краявіды цудоўных куткоў Наднямоння. А яшчэ вельмі падабаецца Мікалаю Канстанцінавічу са знойдзеных у лесе ласіных рагоў вырабляць дэкаратыўныя вешалкі для адзення.

— Пахвалюся і я сваімі вырабамі,— гаворыць гаспадыня дома Лідзія Міхайлаўна.

Адараўшыся на некалькі хвілін ад калаўрота, яна паказвае вытканыя сваімі рукамі абрусы, ручнікі, шалікі, кофты. Вырабы ўпрыгожаны беларускім арнаментам. Многія з іх дэманстраваліся на выстаўках народнай творчасці, што праводзіліся ў мясцовым калгасе «Нёман» і ў раёне.

**Міхаіл БУЛАТ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Лідзія і Мікалай ЦЫБУЛЬСКІЯ.**





*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# ВЯЛІКАМУ ПАЭТУ РАСІІ

Пушкінская тэма ў філатэліі — адна з самых папулярных у нашай краіне. Больш дваццаці марак і блокаў прысвяціла А. Пушкіну паштовае ведамства нашай краіны. Першыя з іх выйшлі да 100-годдзя з дня гібелі паэта ў дні Усесаюзнай пушкінскай выстаўкі ў Маскве ў 1937 годзе. Філатэлістычная Пушкініяна — гэта не толькі маркі, але і мастацкія канверты, выдадзеныя ў гонар паэта, з адлюстраваннем помнікаў Пушкіну, пушкінскіх мясцін, і розныя паштовыя штэмпелі ў гонар юбілею, у памяць тых мясцін, дзе пабываў паэт. У савецкай філатэлістычнай Пушкініяне ёсць і беларускія матывы. Гэта спецыяльны штэмпель, які прымяняўся ў Гомелі ў 1962 годзе ў дні памяці (125 гадоў з дня смерці А. Пушкіна), гэта мастацкі канверт з адлюстраваннем будынка Брэсцкага педінстытута імя А. Пушкіна. Усе гэтыя выпускі вядомы савецкім калекцыянерам. Але існуе Пушкініяна і ў замежнай філатэліі. Аб гэтых марках ведае далёка не кожны філатэліст.

Замежную філатэлістычную Пушкініяну адкрывае марка Румыніі, выдадзеная ў 1947 годзе. На ёй рэпрадуцыраваны фрагмент карціны В. Трапініна, якая з'яўляецца адным з самых папулярных прыжыццёвых адлюстраванняў паэта. Шырока адзначалася за мяжой у 1949 годзе 150-годдзе з дня нараджэння Пушкіна. Юбілейныя выпускі тады з'явіліся ў Румыніі, Чэхаславакіі, Венгрыі. Акрамя маркі, пошта Венгрыі выдала блок з арыгінальнай маркай. Да юбілею былі выдадзены таксама спецыяльныя канверты, прымяняліся арыгінальныя пушкінскія штэмпелі. Цікавая марка Чэхаславакіі. Яе аўтар мастак К. Сволінскі скарыстаў аўтапартрэт паэта, створаны ў 1828 годзе.

Пошта Польшчы выпусціла ў час месячніка польска-савецкай дружбы мініяцюру, на якой—два вялікія славянскія паэты Пушкін і Міцкевіч. Мастак паказаў іх у Пецярбургу, дзе яны неаднаразова сустракаліся.

У 1959 годзе ў Будапешце адбылася выстаўка савецкіх паштовых марак. Гэтай падзеі пошта Венгрыі прысвяціла серыю марак. На адной з іх паказаны фрагмент устаноўленага ў Ленінградзе на плошчы



Мастацтваў каля Рускага музея помніка А. Пушкіну работы народнага мастака СССР М. Анікушына.

У пачатку 70-х гадоў пушкінская тэма з'явілася на марках маладых краін Афрыкі. У 1972 годзе пошта рэспублікі Сенегал выпусціла ў абарачэнне мініяцюру з партрэтам Пушкіна па карціне А. Кіпрэнскага. Такі самы партрэт на марцы Мадагаскара (ён быў напісаны мастаком у 1827 годзе па заказу Дэльвіга).

Вельмі цікавы пушкінскі выпуск ажыццявіла пошта Гвінеі ў 1977 годзе. На марцы адлюстраваны помнік Пушкіну ў Маскве, выкананы М. Анікушыным, і прысвечана гэта мініяцюра 60-годдзю Вялікага Кастрычніка.

У калекцыі марак пра вялікага паэта дастойнае месца займае раздзел «Пушкін і музыка». Незвычайныя філатэлістычны «лёс» оперы «Барыс Гадуноў». Гэтаму шэдэўру музычнай культуры, бессмяротнаму твору Пушкіна і Мусаргскага прысвечаны маркі Балгарыі, Румыніі, Нікарагуа, паштовая картка Польшчы.

Балгарская марка адлюстравала ў ролі Барыса Гадунова славутага опернага спевака М. Гяурава, на румынскай марцы — спявак Г. Фалеску таксама ў ролі Гадунова, і, нарэшце, марка Нікарагуа, дзе мы бачым героя трагедыі Пушкіна Гадунова, ролю якога выконвае Ф. Шаляпін.

Сюжэтамі паштовых марак Польшчы і Венгрыі сталі ілюстрацыі да «Казкі пра рыбака і рыбку», на шасці марках ГДР— ілюстрацыі да «Казкі аб мёртвай царэўне».

Ёсць паштовыя выпускі, якія ілюструюць і іншыя творы паэта. У горадзе Гале (ГДР) у 1961 годзе адкрыты Пушкінскі дом. Адзначаючы памятныя даты ў гісторыі гэтага дома, пошта ГДР выдала тры мастацкія карткі, якія ілюструюць «Капітанскую дачку», «Станцыйнага даглядчыка» і «Казку пра залатога пеўніка».

Пушкініяна адлюстравана і ў іншых паштовых выпусках за мяжой, якія расказалі пра вялікага паэта Расіі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

---

## ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ «ГОЛАС РАДЗІМЫ»

**Паважаныя чытачы! Калі і ў далейшым вы жадаеце рэгулярна атрымліваць інфармацыю пра жыццё Савецкай Беларусі, важныя палітычныя і культурныя падзеі ў рэспубліцы, пра развіццё яе эканомікі, культуры, надышоў час аформіць падпіску на «Голас Радзімы» на 1990 год.**

**Суайчыннікі, хто жыве ў капіталістычных краінах і краінах, што сталі на шлях развіцця, могуць зрабіць гэта праз магазіны і фірмы, якія супрацоўнічаюць з «Міжнароднай кнігай» і Цэнтральным агенцтвам зарубежных выданняў.**

**У сацыялістычных краінах аформіць падпіску можна ў пунктах падпіскі ці ў паштовых аддзяленнях па месцу жыхарства.**

**У Савецкім Саюзе выпісаць «Голас Радзімы» можна ў любым аддзяленні «Саюздруку».**

**Наш падпісны індэкс у рэспубліканскім і ўсесаюзным каталогах падпіскі — 63854, цана на год (для Савецкага Саюза) — 2 рублі.**

---

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаюцца сваякі Міцкевіч (Бараноўскай) Вольгі Фаустаўны. Яна нарадзілася прыкладна ў 1890—1895 годзе. Выйшла замуж за Міцке (магчыма, Мацковіча) М а і разам з ім да 1917 года выехала ў ЗША з вёскі Станькава Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. У Вольгі і Міхаіла было шэсць дачок — Алена, Ганна, Франя, Надзея, Аляксандра і Марыя. Да 1947 года Вольга М іч падтрымлівала перапіску з сястрой у Беларусі. Апошні вядомы адрас сям'і Міцкевіч: 250 А. Кінгстан авеню, Бруклін, Нью-Йорк.

Просьба да тых, каму штонебудзь вядома пра лёс названых асоб або іх сваякоў у ЗША, паведаміць пра гэта ў рэдакцыю або пляменніку Вольгі Міцкевіч па адрасу:

**БССР, 220092, г. Мінск, вул. Дуніна-Марцінкевіча, дом 6, кв. 105. БАРАНОЎСКАМУ Уладзіміру Уладзіміравічу.**

Шукаецца сям'я Веніяміна Герцылівіча Краўчына, які ў выехаў у ЗША прыкладна ў 1914—1920 годзе з беларускага горада Шклова. Яго сям'я — Дора, Бі, Сэм і Элі Краўчыны — у 1947 годзе жылі па адрасу: 1232-54 стрыт, Бруклін, Нью-Йорк.

Іх шукаюць дачка і ўнукі Краўчына Залмана Герцылівіча — старэйшага брата В. Краўчына.

Просім усіх, каму штонебудзь вядома пра сям'ю В. Краўчына, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу:

**БССР, 220094, г. Мінск, праспект Ракасоўскага, дом 12, корпус 1, кв. 519. КРАЎЧЫНАЙ Сары Залманаўне.**

---

## «КАМЕРАТА» Ў РЫЗЕ

Упершыню беларускія выканаўцы трапілі ў праграму аднаго з найбольш прэстыжных джаз-фестываляў краіны—XIV Інтэрнацыянальнага фестывалю «Рытмы лета», канцэрты якога прайшлі ў Рызе. Мінскі ансамбль «Камерата» пад кіраўніцтвам А. Шыкунова—адзіны, наколькі вядома, калектыў краіны, які спявае джаз а капэла, паказаў рыжанам абноўленую праграму. Яна складалася як з твораў класікі джаза, так і з апрацовак п'ес сучаснага, нават авангарднага рэпертуару. Арганічна ўвайшлі ў праграму «Камераты» і творы канцэртмайстра і піяніста А. Пыталева. Пра тое, што выступленне мінчан спадабалася, сведчыць факт запрашэння «Камераты» на канцэрты ў Латвійскую філармонію восенню гэтага года.

**Ч. КАСІНЬШ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 923